*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 9 кастрычніка 1987 г. ⊙ № 41 ⊙ (3399) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




## ЭТАПЫ ВЯЛІКАГА ШЛЯХУ

З юбілейнай рэспубліканскай мастацкай выстаўкі «Краіна Саветаў»



В. СУМАРАЎ. Ленін і дзеці.



У. ТОЎСЦІК. Год 1918.



А. АНІКЕЙЧЫК. Нараджэнне рэвалюцыі.

Нейкім асабліва гарманічным выглядае мінскі Палац мастацтваў у залаціста-чырвоным абрамленні кастрычніцкіх фарбаў. Ці, можа, узнёсласць яму надаюць дзве скульптурныя кампазіцыі, якія арганізатары юбілейнай выстаўкі «Краіна Саветаў», прысвечанай 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, вырашылі паставіць проста на вуліцы, перад уваходам у Палац? Адна з іх сімвалізуе музу выяўленчага мастацтва, другая — сімвал жыцця, мацярынства. Аўтары іх — скульптары М. Кандрацьеў і А. Мятліцкі...

Другі па ліку дзень кастрычніка быў днём вернісажа. У семнаццаць гадзін у вестыбюлі Палаца міністр культуры рэспублікі Ю. М. Міхневіч і старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР У. Стальмашонак запрасілі наведвальнікаў у выставачныя залы.

І майстроў выяўленчага мастацтва, і яго аматараў чакаў сюрпрыз: нарэшце-такі арганізатары «Краіны Саветаў» своечасова падрыхтавалі да выстаўкі каталог, які можна было набыць у кіёску Палаца мастацтваў.

Сама юбілейная экспазіцыя — разнастайная па відах і жанрах мастацтва. Калі ідзеш ад публіцыстычнай карціны да лірычнага пейзажа, ад графічнага цыкла да скульптурнай кампазіцыі, ад плаката да габелена — бачыш, колькі тут спалучана ў высокім паняцці Памяці: рэвалюцыя і Вялікая Айчынная вайна, дзень сённяшні з яго радасцямі і трагедыямі і зварот у будучыню. І ўсюды — чалавечыя лёсы і характары. Характары моцныя, глыбокія і паэтычныя. (Заканчэнне на стар. 2).

ДУМКА ЧЫТАЧА

## ГЛЯДЗЕЦЬ НАПЕРАД, У БУДУЧЫНЮ

**Кінулася ў вочы, што ў апошні час амаль усе беларускія газеты, у тым ліку і «Літаратура і мастацтва», сталі шмат пісаць пра «людзей з мінулага» —і пра тых, што па той бок акіяна, і пра тых, што ходзяць ценямі сярод нас. Многа шуму вакол іх. Адзін артыкул, другі, пісьмы чытачоў... Баюся, каб яны не заганарыліся, не зазналіся ад такой увагі. Дзіўна, што адзін з такіх «учарашніх» нават атрымоўвае слова ў газеце, каб, «выкрыць» другога такога ж, падобнага на яго. Разам, аказваецца, служылі фашысцкім захопнікам. Як быццам адзін «чалавек з мінулага», былы гітлераўскі паслугач, можа быць лепшым за другога такога ж гітлераўскага паслугача. Зрэшты, справа не толькі ў гэтым. Ідзе ідэалагічная барацьба, з ворагамі народа і сацыялізму трэба змагацца. Але ж, што я і хацеў сказаць, у краіне ідзе перабудова, якая патрабуе максімум нашай увагі, нашых сіл. Вунь колькі праблем, за якія трэба ўсім брацца і якія трэба неадкладна вырашаць. Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў заклікае друк быць застрэльшчыкам перабудовы, змагацца за яе, адстойваць яе, пісаць пра яе творцаў, г. зн. пра нашых сучаснікаў, пра людзей сённяшняга дня. А што датычыць гэтых самых «прывідаў», «людзей з мінулага», то ім трэба ўдзяляць увагі на газетнай старонцы роўна столькі, колькі яны таго заслугоўваюць.**

**І яшчэ адно. Калі збіраўся ўжо адпраўляць гэту заметку, купіў у кіёску вашу газету і звярнуў увагу на вялікі і цікавы артыкул Анатоля Сідарэвіча. Артыкул мне ў цэлым спадабаўся. Правільна ставіцца пытанне. Праўду гаворыць крытык: шмат, вельмі шмат наламаў дроў культ. Трэба цяпер гэтыя завалы расчышчаць і садзіць новы лес. Але не ва ўсім А. Сідарэвіч, як мне здаецца, мае рацыю. Ці трэба вось так валіць усё і ўсіх у адну кучу— і сапраўдных барацьбітоў за Савецкую ўладу, і нявінных ахвяр сталінскіх рэпрэсій, і тых, хто вагаўся, і ксяндзоў, якія былі адначасова і паэтамі? Так, нам трэба берагчы і ведаць сваю спадчыну, ведаць і цаніць сваё мінулае і браць усё лепшае з яго для будучага. Але ж, відаць, не ўсё, а толькі лепшае. Успомнім Чарнышэўскага: «Пераносьце з будучага ў сучаснае». Гэта значыць, трэба ў сучаснае, у наш сённяшні дзень пераносіць толькі лепшае. Так я думаю.**

**А. ГОЛУБЕЎ,**
юрысконсульт, афіцэр у адстаўцы.

г. Віцебск.

## УСЁ ПРА БЕЛАРУСЬ

**У Кіеве выйшаў у свет 35-ы нумар грамадска-палітычнага, літаратурна-мастацкага часопіса «Україна» за гэты год, які цалкам прысвечаны Беларусі.**

**Часопіс пачынаецца зваротам да ўкраінскага чытача народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі Васіля Быкава «Светлай вам будучыні — навекі!» Тут жа надрукаваны і старонкі з аповесці В. Быкава «У тумане».**

**У нумары—артыкулы, карэспандэнцыі, рэпартажы аб сённяшнім дні Беларусі, аб пераўтварэннях, якія адбываюцца ў рэспубліцы на шляху перабудовы. Чытачы пазнаёмяцца з артыкулам галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь» А. Шабаліна, дзе расказваецца аб гістарычным мінулым роднага краю, аб станаўленні Беларусі сацыялістычнай, аб украінска-беларускім братэрстве. Нарыс спецкарэспандэнта «України» І. Ільніцкага пад назвай «Волат на далоні» прысвечаны БелАЗу. Артыкул М. Матукоўскага «Новыя промні «Рассвета» расказвае пра сённяшні дзень славутага калгаса імя К. Арлоўскага, пра яго цяперашняга старшыню двойчы Героя Сацыялістычнай Працы В. Старавойтава. У рубрыцы «Перабудова: вопыт, праблемы, перспектывы» выступае начальнік Беларускай чыгункі А. Андрэеў.**

**Пра свята-кірмаш на Століншчыне—рэпартаж В. Жука. З ансамблем «Верасы» знаёміць украінскага чытача карэспандэнцыя П. Якубовіча.**

**У нумары змешчаны пераклады вершаў Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Васіля Жуковіча, Пятра Сушко.**

**А. КАНДРАЦЮК.**

г. Кіеў.




**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук**

# НЯЗГАСНАЕ СВЯТЛО КАСТРЫЧНІКА

Роля і месца Вялікага Кастрычніка ў сусветнай гісторыі такія агромністыя, што аналіз сусветна-гістарычнага *значэння* гэтай падзеі, яе характару і ўплыву на лёсы народаў нашай краіны, усёй цывілізацыі *патрабуюць* і *адпаведнага буйнамаштабнага погляду*. Метадалогію погляду, які дазваляе дакладна вызначыць рухаючыя сілы і тэндэнцыі, заканамернасці і супярэчнасці грамадскага развіцця, бачыць яго дасягненні і цяжкасці, даюць ленінскія працы. Як вобразна адзначыў прагрэсіўны англійскі публіцыст А. Монтэгю, «напісанае Леніным — не архіў, а арсенал. Калі наступае час бітвы, мы гартаем старонкі яго кніг гэтак жа, як перад атакай набіваем патронамі кулямётныя стужкі».

Разам з У. І. Леніным, абапіраючыся на яго метадалогію навуковага пранікнення ў глыбінную сутнасць і тэндэнцыі ходу чалавечай гісторыі, мы ўдумваемся ў міжнароднае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі перш за ўсё ў самым **шырокім** сэнсе гэтага слова. Непарыўная сувязь з перамогай Кастрычніка руху наперад сусветнага рэвалюцыйнага працэсу, канкрэтным выражэннем якога сталі новыя перамагаючыя сацыялістычныя рэвалюцыі, развал каланіяльнай сістэмы імперыялізму, развіццё міжнароднага камуністычнага і рабочага руху, рост і ўмацаванне масавых дэмакратычных, антыімперыялістычных, антываенных сіл, з'яўляецца несумненнай.

Кожны пражыты пасля Кастрычніка дзень, кожны крок паступальнага ходу гісторыі прыносілі і прыносяць усё новыя пацвярджэнні ўсеагульнай ісціны, што цяперашні воблік свету ёсць заканамерны вынік гістарычнага працэсу, пачаткам якога была Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Разам з У. І. Леніным, на аснове яго метадалогіі, мы асэнсоўваем значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў больш **вузкім** сэнсе, з пункту гледжання адкрытых ёю заканамернасцей сацыялістычнай рэвалюцыі, а таксама рэвалюцыйна-гістарычнага вопыту, якія далі Кастрычнік і пачатае ім стварэнне новага грамадства ў нашай краіне. Сутнасць заключаецца ў тым, што ў вопыце і ўроках Кастрычніка выкрышталізаваліся заканамернасці і прынцыпы, агульназначныя для ўсіх атрадаў пралетарскай класавай барацьбы на працягу ўсёй эпохі пераходу ад капіталізму да сацыялізму.

Перш за ўсё Вялікі Кастрычнік бліскуча даказаў на практыцы *найвялікшую* правільнасць ленінскага вываду аб тым, што ролю перадавога барацьбіта ў рэвалюцыйнай *перабудове* свету можа выканаць толькі партыя рабочага класа, якая кіруецца рэвалюцыйнай тэорыяй. Ён паказаў *таксама*, а наступныя сацыялістычныя рэвалюцыі пацвердзілі, што разрыў з капіталізмам, пераход да новага грамадства не можа быць вынікам нейкай павольнай эвалюцыі або мірнага «ўрастання». Перамога рэвалюцыі магчыма толькі ў выніку класавай барацьбы і заваявання дыктатуры пралетарыяту, зломy эксплуататарскага апарату падаўлення і маніпуліравання масамі, устанаўлення грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, *стварэння механізму свядомага* кіравання эканамічнымі і сацыяльнымі працэсамі, развіцця сацыялістычнай дэмакратыі і культуры.

Увесь паслякастрычніцкі вопыт сацыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца ўвасабленнем *ленінскага палажэння* аб тым, што камуністычная арганізацыя грамадскай працы, першым крокам да якой з'яўляецца сацыялізм, трымаецца выключна на свабоднай і свядомай дысцыпліне саміх працоўных, пакончыўшых з эксплуатацыяй чалавека чалавекам. Выяўленне, укараненне ў арганізацыю новых форм і метадаў творчасці ў працы, як паказвае практыка, было і застаецца самай важнай і самай складанай праблемай сацыялістычнага будаўніцтва, вырашэнне якой зойме не адно дзесяцігоддзе.

Карэнны фактар, які вызначае новы лад — жывая творчасць саміх працоўных мас; сацыялізм нельга стварыць па загадзе зверху, яго духу чужы, процiпаказаны казённа-бюракратычны аўтаматызм.

Натуральна, кожнай краіне ўласціва велізарная разнастайнасць нацыянальных асаблівасцей, канкрэтна-гістарычных умоў. Але яна ні ў якім разе не перакрэслівае значэння універсальных асноў, на практыцы раскрытых у ходзе ўсіх перамогшых сацыялістычных рэвалюцый, а толькі патрабуе правільнага іх відазмянення ў прыватнасцях, прыстасавання і прымянення да нацыянальных і нацыянальна-дзяржаўных адрозненняў. Разам з тым, гаворачы пра міжнароднае значэнне вопыту Кастрычніка, пачатага ім сацыялістычнага будаўніцтва, У. І. Ленін ніколі не ўяўляў яго беспамылковым, ідэальным, усёабдымным увасабленнем ісціны сацыялізму ў апошняй інстанцыі. Ён выразна бачыў дыялектычна супярэчлівы характар канкрэтна-гістарычнага вопыту любой краіны, які спалучае ў сабе як агульнае, так і асабістае, як інтэрнацыянальнае, так і нацыянальнае. Больш таго, ён падкрэсліваў, «што толькі шляхам рада спроб, — з якіх кожная, асобна ўзятая, будзе аднабаковай, будзе мець пэўную неадпаведнасць, — створыцца цэльны сацыялізм з рэвалюцыйнага супрацоўніцтва пралетарыяў **усіх** краін».

Асэнсоўваючы сёння пачатую Вялікім Кастрычнікам сацыялістычную гісторыю, вынікі і ўрокі барацьбы савецкага народа за новае грамадства, іх значэнне, мы адначасова ўдумваемся і «ў практычны вопыт нашай работы, узяты ў цэлым», сканцэнтроўваем увагу «на нявырашаных задачах яе». «Асабліва дарэчы і неабходна падобнае адсвяткаванне рэвалюцыі ў тых выпадках, — *пісаў У. І. Ленін*, — калі ёсць карэнныя задачы, яшчэ не вырашаныя рэвалюцыяй, калі патрабуецца засвоіць нешта новае (з пункту гледжання прaробленага рэвалюцыяй да гэтага часу) для вырашэння гэтых задач».

Гэтыя словы напісаны ў лістападзе 1921 года, калі партыя бальшавікоў новай эканамічнай палітыкай і звязанай з ёю перабудовай пачала круты паварот з тым, каб забяспечыць перамогу сацыялізму ў нашай краіне. *Яны набываюць* асаблівае гучанне сёння, на цяперашнім крутым павароце, калі перад партыяй і савецкім народам паўстала задача рэвалюцыйнай перабудовы, абнаўлення ўсіх сфер жыццядзейнасці грамадства, надання магутнага паскарэння справе, пачатай 70 гадоў назад. На гэтым адказным рубяжы ёсць «нешта новае», што трэба засвоіць, усвядоміць, ажыццявіць, і «лепшы спосаб адсвяткаваць гадавіну вялікай рэвалюцыі» — сканцэнтраваць намаганні на ператварэнні ў жыццё стратэгічнага курсу КПСС на планамернае і ўсебаковае ўдасканаленне сацыялізму, далейшы рух наперад да камунізму на аснове паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, барацьбу за мір і сацыяльны прагрэс.

●

Асэнсоўваючы практычны вопыт справы Вялікага Кастрычніка, «узяты ў цэлым», перш за ўсё ў рамках сусветна-гістарычных, на ўзроўні праблем, якія закраналі самыя асновы існавання цывілізацыі, У. І. Ленін у першую чаргу звярнуўся да такой з іх, паводле сучаснай тэрміналогіі, глабальнай, як **праблема вайны і лёсу чалавецтва.** Тады, у 1921 годзе, толькі-толькі закончылася першая сусветная вайна, якая ўзрушыла яе сучаснікаў небывалымі да гэтага маштабамі пакут і разбурэнняў. 38 дзяржаў-удзельніц, 10 мільёнаў загінуўшых, 28 мільёнаў долараў страты ад разбурэння матэрыяльных каштоўнасцей — такія былі вынікі, над якімі не маглі не задумацца і лепшыя розумы чалавецтва, і мільёны простых людзей.

Побач з цвярозымі мысліцелямі, якія папярэджвалі народы аб пастаянна пагражаючай ім небяспецы, былі і такія, хто пісаў аб фатальнай логіцы развіцця самой навукі, што вядзе да адкрыццяў разбураючых асновы чалавечага быцця. Чуліся галасы пра беспатнае чалавецтва, якое, маўляў, не ведае, што робіць, падобна да малога дзіцяці, якое гуляе з запалкамі. Шырокае распаўсюджанне атрымалі таксама розныя містычныя погляды аб грэшнай прыродзе людзей, якая нібыта падштурхоўвае іх да самазнішчэння. У цэлым, *аднак*, ужо ў *тыя* гады ў стракатай гаме розных, нярэдка выключаўшых адно другое ўяўленняў і прароцтваў, усё *больш выразна* выступала ідэя «ачалавечвання» міжнародных і міждзяржаўных адносін. Але тут жа паўставала пытанне, як, якімі шляхамі і сродкамі ажыццявіць яе?

Адказваючы на яго, У. І. Ленін указваў на галоўнае — *на* прычыны войн, якія ён бачыў у эксплуататарскім ладзе, агрэсіўнай прыродзе імперыялізму. Закончыўшы падзел свету і надаўшы войнам сусветныя маштабы, імена імперыялізм паставіў дасягненні чалавечага розуму на службу стварэння зброі страшэннай разбуральнай сілы. Пытанне аб войнах, далей, выступала для У. І. Леніна як краевугольны камень усёй палітыкі ўсіх краін зямнога шара, як пытанне жыцця і смерці дзесяткаў мільёнаў людзей. І перш за ўсё з вырашэннем гэтага пытання, звязанага з лёсам чалавецтва, усёй планеты, з магчымасцю прадухілення войн ён суадносіць ацэнку Кастрычніка, разглядаючы яго перамогу, якая вырвала з вайны «**першую сотню мільёнаў людзей** на зямлі», як «першую перамогу справы знішчэння войн».

Найважнейшым дзяржаўным актам улады рабочых і сялян, што ўсталявалася ў выніку знішчэння эксплуататарскага ладу, стаў Дэкрэт аб міры, які абвясціў ясную і дакладную праграму барацьбы за справядлівы дэмакратычны ўсеагульны мір. У краевугольным пытанні ўсёй сусветнай палітыкі Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла, паводле ленінскай ацэнкі, новую эпоху сусветнай гісторыі. Гэта першая перамога ў справе знішчэння войн разглядалася як яшчэ **не канчатковая,** атрыманая з небывалымі цяжкасцямі, з нечуванымі мукамі, з шэрагам велізарных няўдач і памылак. Але «мы, — пісаў У. І. Ленін, — гэту справу пачалі. Калі іменна, у які тэрмін, пралетарыі якой нацыі гэту справу давядуць да канца, — пытанне неістотнае. Істотна тое, што лёд зламаны, што шлях адкрыты, дарога паказана».

Чалавецтву не ўдалося прадухіліць другую сусветную вайну. Развязаная найбольш рэакцыйнай ударнай сілай імперыялізму — германскім фашызмам, небывалая па сваіх маштабах і бязлітаснасці, яна ўцягнула ў сваю арбіту 72 дзяржавы, нанесеная ёю страта лічылася ўжо ў 316 мільярдаў долараў. Вайна забрала 55 мільёнаў людскіх жыццяў.

Хоць другая сусветная вайна і не была спынена, аднак рашаючы ўклад у разгром фашысцкай Германіі і яе сатэлітаў, у выратаванне чалавецтва ад гітлераўскай чумы ўнеслі Савецкі Саюз і яго Узброеныя Сілы. І іменна наша краіна, працягваючы справу Вялікага Кастрычніка, з першых пасляваенных гадоў разгарнула паслядоўную і мэтанакіраваную барацьбу за такі сусветны парадак, які выключаў бы вайну як сродак вырашэння міжнародных канфліктаў.

З паяўленнем жа смяротнай пагрозы, якая навісла над чалавецтвам у выніку стварэння ядзернай зброі, задача стала заключацца ўжо не толькі ў тым, каб зберагчы свет, але і **перабудаваць** яго так, каб войны наогул не выраслі.

Сёння праблему вайны і міру Камуністычная партыя нашай краіны і Савецкая дзяржава разглядаюць як **галоўную** супярэчнасць сучаснасці. Такі вывад зроблены на аснове глыбокага, цвярозага аналізу сітуацыі, якая склалася ў свеце. Перш за ўсё ён вынікае з той акалічнасці, што стварэнне, а затым і нястрымнае накапленне ядзернай зброі зрабілі чалавека **тэхнічна** здольным пакласці канец свайму ўласнаму існаванню. У нашы дні ў свеце ўжо накоплена ядзерных боепрыпасаў столькі, што іх хапіла б для шасціразовага знішчэння ўсяго жывога на Зямлі; як сведчыць навуковая інфармацыя, выкарыстанне менш за адну сотую сумарнай магутнасці накопленых ядзерных арсеналаў прывядзе да катастрафічных кліматычных і экалагічных

**(Заканчэнне на стар. 4, 13).**

ПА ЗАКОНАХ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

# Як наша слова адзавецца

**Урокі семінара замежных перакладчыкаў беларускай літаратуры**

Вось і завяршыў сваю работу такі доўгачаканы першы міжнародны семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры. Развіталіся з восеньскай Беларуссю, з маляўнічымі краявідамі Ракаўшчыны, з гасціннай «Іслаччу», домам творчасці імя В. Дуніна-Марцінкевіча, балгары і палякі, немцы і венгры, югаславы, чэхі і славакі. Павезлі з сабою не толькі веды, эмоцыі, але і новы зарад творчай энергіі, натхнення, жаданне з яшчэ большай настойлівасцю і мэтанакіраванасцю ўзводзіць трывалыя масты дружбы паміж народамі і краінамі.

Адкрываючы семінар, старшыня праўлення СП БССР Максім Танк так вызначыў яго асноўныя мэты: «Патрэба ў скліканні такога семінара — перакладчыкаў з беларускай мовы — даўно наспела, бо значна выраслі шэрагі новых шчырых пасрэднікаў-тлумачоў і стала больш паслядоўнай практычная іх дзейнасць, павышэла і само майстэрства перакладаў. Але і з'явілася шмат праблем і проста пытанняў, якія неабходна абмеркаваць за нашым пісьменніцкім «круглым сталом», выслухаць пажаданні сяброў-перакладчыкаў, абмяняцца ўзаемнымі меркаваннямі і прэтэнзіямі, сваімі радасцямі і трывогамі, планамі на бліжэйшую будучыню. Можа, гэта наша сустрэча дасць адчувальны штуршок і крытыцы, якая ўсё яшчэ абмінае перакладчыцкую дзейнасць...».

Адразу скажу: семінар удаўся. Першы прыплод, як кажуць, *не пайшоў за плот*. І гэта не толькі мая асабістая думка. Я размаўляў з многімі ўдзельнікамі семінара: Найдзенам Вылчавым (НРБ), Норбертам Рандавым (ГДР), Вацлалам Жыдліцкім (ЧССР), Шары Карыг (Венгрыя), Фларыянам Няўважным, Чэславам Сенюхам (ПНР), Мамчылам Джэркавічам (СФРЮ)... І ўсе яны *ў адзін голас казалі:* семінар прайшоў на высокім узроўні, даў надзвычай шмат і для розуму, і для сэрца. А гэта ж думка людзей, якія бывалі — і неаднойчы! — на аналагічных семінарах у розных славянскіх і неславянскіх краінах. Гэта ў нас ён, семінар, першы. А ў Балгарыі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Польшчы падобныя семінары (толькі са значна большым прадстаўніцтвам і большай працягласцю — да месяца) праходзяць штогод практычна з пасляваеннага часу. Некаторыя з нашых «семінарыстаў» да гэтага часу пабывалі на такіх перакладчыцкіх сустрэчах у Маскве, Кіеве, Вільнюсе...

Асноўная ўвага на семінары, зразумела, была ўдзелена вучобе, азнаямленню перакладчыкаў з гісторыяй беларускай літаратуры, яе сучасным станам, некаторымі асаблівасцямі беларускай літаратурнай мовы, культуры, з беларусістыкай і Беларуссю ўвогуле. З вялікай цікавасцю былі ўспрыняты лекцыі прафесароў Д. Бугаёва, У. Конана, А. Лойкі, Л. Шакуна, дацэнтаў Н. Гілевіч, Л. Сямешка, Л. Тарасюк, І. Шкрабы, лектара ЦК КПБ Ю. Чухлея. А лектарам працаваць было не так проста, бо перад імі сядзелі слухачы з рознай беларусазнаўчай падрыхтоўкай: з аднаго боку, Рыта Браўн (ГДР), для якой толькі пачынае раскрывацца свет беларускамоўнай культуры, з другога — прафесар Карлава універсітэта, глыбокі знаўца беларускай літаратуры Вацлаў Жыдліцкі. Тым не менш я не пачуў ніводнага папроку ў адрас лектараў. Наадварот, усе перакладчыкі падкрэслілі карысць, якую прынёс ім такі **сістэматызаваны** курс беларускай мовы і літаратуры. Адзінае пажаданне на будучае: прадугледзець час і на абмеркаванне лекцыі, гутарку, а можа, і творчую дыскусію з лектарам. Штодзённа да абеду, з 10 гадзін да 14, заслухоўваліся дзве, а то і тры лекцыі. Не то што на зацікаўленую гутарку з лектарамі (а ўсе яны — людзі творчыя, цікавыя), а нават на звычайнае «пераварванне» інфармацыі часу амаль не ставала...

Вучоба праходзіла не толькі ў лекцыйнай зале. Нямала карыснага ўзялі для сябе перакладчыкі ў час гутарак з работнікамі Дзяржкамвыда БССР, выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». Зазначу, дарэчы, што дырэктар бялградскага выдавецтва «Нове дэла» М. Джэркавіч тут жа, у кабінеце дырэктара «Юнацтва» В. Лукшы, падпісаў дагавор аб сумесным выданні югаслаўскіх і беларускіх партызанскіх песень. Вось вам і першы канкрэтны вынік нашага семінара!

Асаблівую карысць не толькі гасцям, але і арганізатарам семінара, думаю, прынесла пасяджэнне прэзідыума праўлення СП БССР сумесна з секцыяй мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей, на якое былі запрошаны «семінарысты». Пытанне абмяркоўвалася не простае: «Стан і задачы беларуска-замежнага літаратурнага ўзаемадзеяння». Дакладчык кандыдат філалагічных навук У. Сакалоўскі паглядзеў на гэту праблему праз прызму сучасных беларуска-нямецкіх літаратурных сувязей. Даклад выклікаў ажыўленую гаворку, у якой прыняло ўдзел семнаццаць чалавек. Цяжка сказаць, што пераважала ў гэтай гаворцы: інфармацыя аб канкрэтных беларуска-іншанацыянальных сувязях, узаемаперакладах ці канкрэтныя прапановы аб шляхах далейшага мацавання гэтых сувязей, аб актывізацыі перакладчыцкай дзейнасці. Былі і цікавыя развагі агульнатэарэтычнага характару. Слушна, у прыватнасці, гаварыў В. Жыдліцкі *пра лёс, горкі лёс* літаратуры так званых малых народаў, або, дакладней, народаў, мова якіх мала вядома ў свеце. У пэўнай ступені іх долю падзяляе і беларуская літаратура. Да нядаўняга часу яна не мела сусветнага водгаласу, хаця здаўна многімі сваімі якасцямі стаяла, а тым больш зараз стаіць на сусветным узроўні. І вось тут на дапамогу літаратуры павінны прыйсці (і прыходзяць!) перакладчыкі. Часам усе лаўры еўрапейскага і нават сусветнага прызнання беларускай славеснасці пажынаюць адны перакладчыкі, іх узносяць «амаль як святых». *Аднак, падкрэсліў* В. Жыдліцкі, «нашы перакладчыцкія заслугі абумоўлены вашай літаратурай. Калі б не яна зацікавіла свет, не было б і перакладчыкаў». За «круглым сталом» канферэнц-залы СП БССР, дзе праходзіла пасяджэнне, В. Жыдліцкі перадаў «вялікае дзякуй беларускай літаратуры, якая знаёміць свет з беларускім народам, *са шматпакутным* яго лёсам і гераізмам, а значыць, узбагачае ўяўленне свету пра сябе. Усяму свету яна нясе свой дар, як марыў калісь Максім Багдановіч».

Пра тое, як перакладаць, уголас разважаў Н. Вылчаў. На яго думку, перакладаць трэба таленавіта. Што гэта значыць? Гэта значыць, што ты паважаеш аўтара, якога перакладаеш, а не творыш за яго або па ўзору яго. Балгарскі перакладчык, на рахунку якога — дзесяткі сапраўды таленавіта ўзноўленых беларускіх паэтаў, дзяліўся сваім вопытам: «Я імкнуся захаваць асобу паэта, не парушыць яго паэтыку, яго метра-рытмічнага ладу. Калі перакладзеш добра, аўтар застанецца ў культуры тваёй краіны, калі блага перакладзеш, гэта надоўга перакрые шлях да твайго чытача».

М. Джэркавіч падкрэсліў неабходнасць падрыхтоўкі новых, маладых перакладчыцкіх кадраў, выказаў шкадаванне, што ў Югаславіі пакуль што не вывучаецца ва універсітэтах беларуская мова, *у той час як* у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна вывучэнне сербскахарвацкай мовы стаіць на высокім узроўні. Чэслаў Сенюх (ПНР) прапанаваў наладзіць непасрэднае цеснае супрацоўніцтва паміж СП БССР і Саюзам польскіх перакладчыкаў, з 350 членаў якога больш за сто чалавек займаюцца перакладам з моў народаў СССР. Анна Сабецка (ПНР), перакладчыца аповесці Янкі Брыля «Золак, убачаны здалёк», з горыччу паведаміла пра тое, што ў Польшчы вельмі цяжка знайсці беларускую кнігу: «У нашай краіне шмат кнігарняў, дзе прадаецца замежная літаратура, там можна купіць рускую, часам украінскую і нават літоўскую кнігу, але кнігі беларускай не купіш».

*Усё, што гаварылася* перакладчыкамі за «круглым сталом» у Саюзе пісьменнікаў, так ці інакш тычылася беларуска-замежных літаратурных узаемасувязей. Гаворка прайшла ажыўлена, канструктыўна.

Насычанай была і культурная праграма семінара. Нават для тых, хто не ўпершыню ў Беларусі, карыснымі былі паездкі ў Вязынку і Мікалаеўшчыну, у Раўбічы і Заслаўе, *агляд новабудоўляў* і старажытных мясцін Мінска, наведанне калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна і вытворчага аб'яднання «Белкераміка» ў Радашковічах. Хочаш лепш зразумець пісьменніка — наведай яго радзіму! Гэты запавет вялікага Гётэ, відаць, прыгадваўся не аднаму перакладчыку беларускай літаратуры. Прыгадваўся і на шырокім праспекце адроджанага Мінска, і на журботным ходніку Хатынскага мемарыяла...

Культурная праграма ўключала і наведанне музеяў, майстэрняў скульптара А. Анікейчыка і мастака В. Шаранговіча, *прагляд беларускіх фільмаў* і спектакля «Мудрамер» у Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Купалы... Канечне, не ўвесь мацярык беларускай культуры адкрыўся перакладчыкам. Ды і ці магчыма гэта за дзесяць дзён? Аднак значная частка гэтага мацерыка стала для іх сваёй, абжытай...

Так, першы міжнародны семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры ў цэлым удаўся. І гэта не толькі прыватнае меркаванне, думка арганізатараў і ўдзельнікаў семінара, але і афіцыйная ацэнка, што прагучала з вуснаў сакратара ЦК КПБ В. А. Пячэннікава пад час уручэння ім Ганаровых грамат Вярхоўнага Савета БССР М. Джэркавічу, Н. Рандаву, П. Кыневай (НРБ) і Ф. Няўважнаму за вялікі ўклад у прапаганду беларускай літаратуры сярод працоўных сацыялістычных краін і актыўную перакладчыцкую дзейнасць. У поспеху семінара — заслуга многіх арганізацый і канкрэтных асоб, ад партыйных і ўрадавых органаў рэспублікі і да Саюза пісьменнікаў Беларусі, беларускага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах.

І ўсё ж сёння, у час дэмакратызацыі і перабудовы дзяржаўнага і грамадскага жыцця,— *хочацца гаварыць не толькі* пра поспехі. Вынікі, урокі семінара даюць падставу павесці гаворку шырэй, і не адно толькі ў апалагетычным плане. І не пра адзін толькі семінар, а ўвогуле пра стан беларуска-іншанацыянальных літаратурных узаемасувязей.

Вось некаторыя меркаванні і прапановы ўдзельнікаў семінара, да якіх, думаю, варта прыслухацца ўсім нам. Найперш — пра сам семінар, яго арганізацыю, праграму і г. д.

Літаральна ўсе ўдзельнікі семінара *горача падтрымалі* саму ідэю яго правядзення, прасілі праводзіць такі семінар рэгулярна, не радзей чым раз у два-тры гады; знайшлі адабрэнне таксама працягласць і час перакладчыцкай вучобы (да двух тыдняў, у верасні). Не выклікала прынцыповых пярэчанняў і праграма семінара (пра яе вялася гутарка вышэй). З заўваг *прыватнага* характару адзначым наступнае:

Праграма семінара была цікавая, але завельмі насычаная рознымі мерапрыемствамі. Зусім не было вольнага часу. «Узяла ў бібліятэцы цікавыя для мяне кніжкі, але не знайшла часу *пачытаць* іх» (П. Кынева). «Хацелася б пачытаць, паглядзець тэлевізар, проста падыхаць свежым лясным паветрам, але не хацелася нічога прапускаць з таго, што прапанавалі нам» (Ч. Сенюх). «З сябрамі — беларускімі пісьменнікамі даводзілася сустракацца «па-партызанску», інакш гэта і не назавеш. З «абдымкаў» праграмы вырвацца не проста» (В. Жыдліцкі).

Заўважу: ніхто не выказаўся супраць зместу праграмы, асобных яе пунктаў. Усё цікава, патрэбна. Але ж калі перавесці дух, калі пасядзець з кнігай, пазнаёміцца з творам, які тут жа, *на семінары, падарыў* табе аўтар, проста адпачыць? Выхадных не было. Вечары таксама былі заняты. А ўлічыць трэба і далёкую дарогу, і працэс акліматызацыі, і не малады ўзрост большасці перакладчыкаў...

*Замала было* сустрэч з беларускімі пісьменнікамі. Аб гэтым шкадавалі, бадай, усе перакладчыкі. Канечне, не выпускалі з поля зроку семінар сакратары СП БССР, апекаваліся гасцямі асобныя члены бюро секцыі мастацкага перакладу, у «Іслач» наведваліся яшчэ два-тры пісьменнікі. А рэшта?.. Аднаго Янку Брыля хіба што можна згадаць добрым словам: ён і афіцыйна сустракаўся з перакладчыкамі, і суправаджаў іх у некаторых экскурсіях па Беларусі.

Несумненна, у гэтым — пэўная недапрацоўка арганізатараў семінара. Меў рацыю В. Адамчык, калі на «круглым стале» ў СП БССР папракаў сакратарыят за недастатковую і спозненую *інфармацыю пісьменніцкай* грамадскасці рэспублікі аб правядзенні семінара. Але ж і тады, калі гэта інфармацыя да пісьменнікаў дайшла, хіба яны праявілі належную актыўнасць у наладжванні кантактаў з перакладчыкамі, у прапагандзе калі не чужых, то хаця б сваіх твораў? Няўжо «Іслач» так далёка ад Мінска? Па-ранейшаму большасць з нас «ленивы и нелюбопытны»...

*Я апытаў многіх* перакладчыкаў: якою яны хацелі б бачыць праграму будучых такіх семінараў? Янка Дзімаў (НРБ) прапануе праводзіць «круглыя сталы» з найбольш цікавымі сучаснымі беларускімі паэтамі, празаікамі і крытыкамі. Але каб гэтыя «сталы» былі неафіцыйнымі, каб на іх можна было не толькі пачуць нешта цікавае, *але і самому выказацца* пра пачутае, а часам і паспрачацца з пісьменнікам. Мечыслаў Яцкевіч (ПНР) хацеў бы паслухаць лекцыі пра дасягненні беларускай літаратуры ў асобных жанрах. П. Кынева раіць удзяляць больш увагі літаратуры 20-х гг., асобныя лекцыі прысвяціць творчасці нейкага аднаго майстра беларускай прозы, паэзіі, драматургіі. Вельмі хацелася б пачуць лекцыі дасведчаных спецыялістаў па гісторыі Беларусі (В. Жыдліцкі). Пэўную карысць прынеслі б лекцыі па тэорыі перакладу, своеасаблівасці ўзаемаперакладу з роднасных славянскіх моў (Дарота Блашчык, ПНР). На такіх семінарах варта наладжваць адкрытыя выстаўкі беларускіх кніг у перакладах на замежныя мовы, каб перакладчыкі маглі ўбачыць, што перакладзена, як выдадзена, пераняць вопыт сваіх замежных калег (П. Кынева).

У гутарках з перакладчыкамі, у іх выступленнях за «круглым сталом» і нават на вялікім інтэрнацыянальным літаратурным вечары, які адбыўся ў Доме літаратара, высветлілася, што яшчэ перашкаджае даходзіць беларускай літаратуры да замежнага чытача. Як ні дзіўна, галоўнай перашкодай *аказаліся не цяжкасці* чыста творчага характару, нават не малалікасць перакладчыцкіх кадраў. Такой перашкодай, адолець якую не могуць да канца і вопытныя перакладчыкі, з'яўляецца поўная або значная адсутнасць аб'ектыўнай аператыўнай інфармацыі пра новыя беларускія выданні, немагчымасць своечасова атрымаць гэтыя выданні ні ў сябе на радзіме, ні праз пасрэдніцтва зацікаўленых арганізацый у Савецкім Саюзе. А такіх арганізацый і ўстаноў нямала: «Международная книга», Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах (УААП), Кніжная палата, Дзяржбібліятэка, Дзяржкамвыд, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры...

Асабліва шмат нараканняў у перакладчыкаў на УААП. Дана Легутава (ЧССР) вось ужо пяць гадоў не можа атрымаць «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага. Гэты твор разам з пісьмамі сына пісьменніка ваеннага часу хацелі б выдаць славакі. М. Яцкевіч гаварыў, што даўно паслаў пісьмо ў Мінск, на адрас беларускага аддзялення УААП, але адказу да гэтага часу не атрымаў. Польскі перакладчык, які перакладае таксама і з літоўскай літаратуры, падкрэслівае: начальнік літоўскага аддзялення УААП асабіста ведае ўсіх замежных перакладчыкаў літоўскай літаратуры, рэгулярна пасылае ім кніжныя навінкі, розныя рэкламныя матэрыялы. Змен патрабуе і ганарарная сітуацыя, што не садзейнічае

**(Заканчэнне на стар. 6)**

# Як наша слова адзавецца

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 5).

імкненню пісьменніка выдацца за мяжой. «Я пераклаў вашага аўтара,— расказаў Н. Вылчаў, —атрымаў 2000 рублёў. Потым даведаўся, што сам аўтар атрымаў праз УААП 60 рублёў. Як гэта зразумець?»

«Международная книга» амаль не гандлюе беларускай кнігай, не зацікаўлена ў яе прапагандзе за мяжой: клопату з ёй шмат, а «навар» слабы. Што ж, у такім разе, можа, стварыць фірму «Беларуская кніга», забраўшы адпаведныя функцыі ў «Международной книги», далучыўшы сюды правы УААПа, рэкламныя магчымасці Дзяржкамвыда, выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва»? Цяпер жа асобным прадпрыемствам дазволена выходзіць на прамы кантакт з зарубежнымі партнёрамі. Такі статус патрэбны быў бы і «Беларускай кнізе»...

Несумненна, большую ролю ў прапагандзе твораў беларускіх пісьменнікаў за мяжой магло б адыграць і Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры СП БССР. Хіба не магло б яно частку сваіх не малых прыбыткаў патраціць на закупку і пасылку замежным перакладчыкам (прычым, рэгулярную закупку і пасылку!) розных мастацкіх выданняў, бібліяграфічных даведнікаў, што выпускаюцца Кніжнай палатай рэспублікі і цэнтральнымі бібліятэкамі БССР, на выданне ўласнай рэкламнай прадукцыі?

Пара падумаць ужо пра выданне ў рэспубліцы рэгулярнага штогодніка на рускай (а можа, і на англійскай) мове, у якім бы даваўся аналітычны агляд дасягненняў беларускай літаратуры літаральна ва ўсіх жанрах за папярэдні год. Такія агляды, дарэчы, ужо даўно рэгулярна выпускаюцца ў Літве. Іх атрымліваюць перакладчыкі, даследчыкі літаратуры, кнігагандлёвыя работнікі; яны служаць сваю добрую службу на міжнародных кніжных кірмашах у Маскве і ў іншых гарадах Еўропы і свету. Не дзіва, што літоўская літаратура значна больш, чым беларуская, перакладаецца на мовы народаў СССР і замежныя.

Існуюць і іншыя магчымасці ў прапагандзе роднай літаратуры. Нельга не згадзіцца з Максімам Танкам, што «ў сувязях з зарубежнымі літаратурамі шмат маглі б дапамагчы нам нашы прадстаўнікі ў ЮНЕСКА, Арганізацыі Аб'яднаных Нацый». А хіба прыватныя кантакты паміж беларускімі і замежнымі літаратарамі менш важаць? Летапіс сувязей ведае нямала прыкладаў таго, як у час дасланая прыватным шляхам кніга затым аператыўна перакладалася, становячыся яскравым фактам міжлітаратурнага працэсу. Праўда, у апошнія гады паслаць кнігу за мяжу па пошце стала ў нас і даволі дорага, і—галоўнае — клопатна: на міжнародную кніжную бандэроль трэба браць спецыяльны дазвол у гарвыканкоме. Супраць такога правіла, заведзенага яшчэ ў гады застою, выступалі пісьменнікі на сваім апошнім з'ездзе. Але воз ні з месца! Цяжка палічыць, колькі страт у ідэалагічнай барацьбе мы панеслі ў выніку ўскладнення пасылкі савецкіх кніг за мяжу, колькі новых перакладаў гэтых кніг, рэцэнзій на іх, даследаванняў пра іх не далічыліся.

Многія перакладчыкі наракалі на адсутнасць беларуска-іншамоўных слоўнікаў: беларуска-польскага, беларуска-чэшскага, беларуска-сербска-харвацкага, беларуска-славацкага... Праўда, В. Жыдліцкі заступіўся за беларусаў: маўляў, не іхні, а наш клопат— выдаць такія слоўнікі, клопат польскіх, чэхаславацкіх, югаслаўскіх лексікографаў. Мне ж хочацца падказаць кампраміснае вырашэнне праблемы: няхай бы адно з выдавецтваў рэспублікі, скажам, «БелСЭ» імя П. Броўкі, заключыла пагадненне на выданне такіх слоўнікаў з пэўнымі выдавецтвамі сацыялістычных краін. Прычым, можна было б у адным томе выдаць і беларуска-іншамоўны слоўнік, і іншамоўна-беларускі, выданне ж распаўсюджвалася б у дзвюх рэспубліках адначасова. Такія слоўнікі, апрача ўсяго іншага, аказалі б значную паслугу практыцы мастацкага перакладу.

Я ўжо згадваў, што чатыры ўдзельнікі семінара атрымалі вышэйшыя ўзнагароды рэспублікі — Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР. У гэтым выявілася стаўленне кіраўніцтва Савецкай Беларусі да дзейнасці замежных прапагандыстаў роднай літаратуры. Чым жа ўзнагародзіў сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў Саюз пісьменнікаў Беларусі? Тым, чым змог: сваімі граматамі, кніжнымі падарункамі (у тым ліку пяцітомным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» і пяцітомнай энцыклапедыяй «Беларуская ССР»). Але ж, відаць, пара ўжо і нам, накшталт шэрагу савецкіх рэспублік, мець сваю спецыяльную пісьменніцкую прэмію для заахвочвання прапагандыстаў беларускай літаратуры. Рускія літаратары рэгулярна прысуджаюць сваім замежным перакладчыкам прэмію імя Максіма Горкага, украінскія — прэмію імя Івана Франка... Як бы дарэчы было цяпер, напярэдадні 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны, установіць аналагічную прэмію яго імя! І рэгулярна прысуджаць яе не толькі замежным перакладчыкам, але і актыўным прапагандыстам нашай літаратуры сярод народаў СССР. Скажам, па адной прэміі тым і другім раз у два гады...

І яшчэ пра адно.

Сёлетні семінар, як сказана вышэй, трымаўся на плячах дзвюх арганізацый: СП БССР, які ўзваліў на сябе ўвесь цяжар па арганізацыі працы семінара і яго матэрыяльным забеспячэнні, і беларускага аддзялення УААП, якое афіцыйна запрасіла перакладчыкаў. Працу летніх школ мовы і культуры, якія праводзяцца ў сацыялістычных краінах, забяспечваюць разам некалькі высокіх установаў і арганізацый: міністэрствы асветы, вышэйшай адукацыі і культуры, таварыства сувязі з замежнымі краінамі, саюз пісьменнікаў, саюз перакладчыкаў (калі ён існуе), акадэмія навук, вядучы універсітэт (на базе якога, як правіла, і праводзіцца такая школа)... У нас жа амаль усе названыя ўстановы да арганізацыі семінара дачынення не мелі. Давайце ж сумесна дбаць пра гэта.

Тут, зразумела, я расказаў далёка не пра ўсё, пра што думалася, гаварылася на працягу дзесяці семінарскіх дзён. Урокі семінара надзвычай карысныя, павучальныя. Для сённяшняга і будучага дня нашай літаратуры, культуры. Для далейшага мацавання інтэрнацыянальнай еднасці.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**старшыня секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР.**



У час гутаркі ў СП БССР. Я. ЯНІШЧЫЦ, Г. САБЕЦКА, Х. ПАПОЎ, Р. БРАУН, Л. ФІЛІМОНАВА, С. ПАНІЗНІК, П. КЫНЕВА.



Творчы дыялог. Н. ВЫЛЧАЎ і С. ЗАКОННІКАЎ.



Радасць сяброўскай сустрэчы. У. МІХНА, В. КАЗЬКО, В. ЗУЕНАК.



Аўтограф на памяць. Ч. СЕНЮХ і Я. СЕМЯЖОН.



На Свіцязі.

## КРЫТЫКА БІБЛІЯГРАФІЯ

ПАЧНУ з прадмовы вядомага савецкага драматурга А. Салынскага да зборніка п'ес А. Петрашкевіча (выдавецтва «Искусство», 1986): «Аляксандр Петрашкевіч увайшоў у драматургію, калі ў Беларусі па праву буйнога таленту ўзначальваў сцэну Андрэй Макаёнак, які засвоіў тое лепшае, што давалі традыцыі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы: блізкасць да народнага жыцця, выкрывальніцкі пафас, гумар... Душэўная палкасць, якая заўсёды адчувалася ў камедыях Купалы, Крапівы, Макаёнка, вастрыня сітуацый, грамадзянскасць у пастаноўцы праблем — усё гэта стала і здабыткам Петрашкевіча. Вядома, ён піша па-свойму, арыгінальна засвойвае блізкія яму тэмы».

Мне даводзілася ў размове з драматургам пацікавіцца: чым жа яго прываблівае тэатр? Адказ быў прыкладна такі: тэатр можа многае сказаць пра тое, пра што ўсе маўчаць, прычым сказаць гучна, эмацыянальна, можа сказаць адначасова вялікай колькасці людзей, якія чакаюць шчырага, прынцыповага слова. Тэатр аператыўны, дзейсны, ад яго не адмахнешся — ён узнаўляе жыццё ў мастацка-абагульняючых вобразах, тэатр можа зрабіць вельмі многае. Такое крэда драматурга.

Петрашкевіч ніколі не быў

---

«СЛОЎНІК беларускай мовы»— даведнік, які дасць чытачу неабходныя звесткі па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні. Дзякуючы сістэме ўмоўных скарачэнняў можна лёгка «прачытаць» любы слоўнікавы артыкул, атрымаць патрэбныя звесткі аб тым ці іншым слове. Слоўнік уключае словы сучаснай беларускай мовы, якія адносяцца да розных пластоў лексікі і выкарыстоўваюцца ў розных сферах ужывання мовы, з яго можна даведацца пра напісанне і вымаўленне, месца націску пераважнай большасці слоў, што бытуюць у беларускай літаратурнай мове ў наш час; акрамя таго сюды ўключаны формы, якія могуць выклікаць цяжкасці пры словазмяненні, а таксама важнейшыя геаграфічныя назвы. Так, у «Слоўніку беларускай мовы» паслядоўна прыведзены ўсе назоўнікі мужчынскага роду, якія ў залежнасці ад значэння могуць мець паралельныя канчаткі ў родным склоне адзіночнага ліку -а(-я) і -у(ю), напрыклад: абрэз (зброя, абрэзаны край)—а, (дзеянне)—у; і гэтак далей.

Ліквідаваны разнабой у напісанні канчаткаў меснага склону. Як вядома, тут розныя тыпы назоўнікаў могуць набываць канчаткі -е, -ы, -і, -у, -э. Выбар канчатка залежыць не толькі ад лексічнага значэння назоўнікаў, але і ад тыпу ас-

---

ДА павышэння культуры мовы журналістаў заклікае новы, трэці па ліку выпуск зборніка артыкулаў вучоных і выкладчыкаў факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, выдадзены пад рэдакцыяй прафесароў М. Я. Цікоцкага і А. І. Наркевіча.

У зборніку дзесяць артыкулаў на канкрэтныя тэмы. Аналізуецца журналісцкая творчасць як на беларускай, так і на рускай мовах.

Прафесар М. Цікоцкі ў артыкуле «Мова газеты ў люстры спрэчак» слушна ставіць праблему выхавання ў чытача добрага лінгвістычнага густу і сцвярджае, што гэта ў многім залежыць ад журналістаў. Насычанасць тэкстаў запазычаннямі (**мэр** замест старшыня гарсавета; аптымальны замест **найлепшы; дыферэнцыраваны** замест **разнастайны** і да т. п.) гучаць у тэкстах недарэчна. М. Цікоцкі, падагульняючы вы-

# «НЯЗРУЧНЫ» ДРАМАТУРГ

(Замест рэцэнзіі)

модным драматургам. Ён і па форме пісьма быццам традыцыйны. Шэраг яго п'ес палюбіўся гледачу. Гэта перш за ўсё «Трывога», «Соль» і некаторыя іншыя.

Натуральна, што не ўсе п'есы аўтара раўназначныя і дасканалыя. Ёсць сярод іх і больш удалыя, і менш удалыя.

Рознае можна гаварыць і пісаць сёння пра драму «Трывога». Але ж іменна яна, напісаная яшчэ ў 1970 годзе, перасцерагала аб згубнасці п'янства, аб небяспецы выраджэння, маральнай і фізічнай дэградацыі. І гэта ў той час, калі аптымісты сцвярджалі, што «у нас няма сацыяльных прычын п'янства, а таму няма і самога п'янства».

П'еса «Трывога» даволі паспяхова прайшла на сцэне тэатра імя Горкага ў Мінску. Шкада толькі, што, параўноўваючы п'есу са спектаклямі, заўважаеш, што з яе зніклі многія вострыя моманты закранутай праблемы.

У фантасмагорыі «Куды ноч, туды сон» драматург зноў звярнуўся да гэтай тэмы. (Праўда, п'еса пакуль яшчэ не пастаўлена).

Цікавая задума твора, хоць і падаецца простай. Нейкі дзівак запускае ў водаправодную сетку мільённага горада эліксір, які ў тых, хто адпіў вады з крана, выклікае агіду да спіртнога. І вось лёс гэтага адкрыцця павінны вырашыць цэлы шэраг адказных работнікаў буйнога маштабу. Аднак яны да гэтага ставяцца абыкава.

П'еса «Куды ноч, туды сон» закранае праблемы абыякавасці, безадказнасці, пашахонства.

Драму «Соль» можна з поўным правам аднесці і да трагедыі. Трагедыя гэтая дакументальная. Яе героі — жыхары Салігоршчыны і суседніх раёнаў — Случчыны і Любаншчыны. Калійныя камбінаты, карыстаючыся дапатопным, проста-такі варварскім спосабам, здабываюць угнаенні і ў той жа час знішчаюць важнейшую жытніцу краю. Гэты факт не стаў па сваёй сумнай папулярнасці ўпоравень з Байкалам, Ладагай ці тымі рэкамі, якія хацелі павярнуць. Але першы (гадоў дзесяць таму назад) даволі гучна аб гэтым сказаў А. Петрашкевіч. На жаль, спачатку гэта п'еса ўвогуле не дапускалася да пастаноўкі. Потым была забаронена прэм'ера ў адным нашым абласным цэнтры, дзе экалагічная абстаноўка не спрыяла абмеркаванню гэтай праблемы ў тэатры. Потым у сталіцы рэспублікі было «скарочана» жыццё п'есы на сцэне Рускага тэатра БССР імя М. Горкага. Словам, п'еса не выклікала прыхільнасці, а аўтара, як ён сам расказваў на старонках газеты «Советская культура», схілялі з солі зрабіць халву.

Чытаю «Соль», апублікаваную ў зборніку, і параўноўваю яе са спектаклем. Гэта ж у многім іншая п'еса! Многае не гучала на сцэне. Нават фінал прапушчаны. А ў фінале чуецца голас героя, забітага раўнадушнасцю, паклёпам: «Земля открыта, щедра, бескорыстна. Она наша на веки вечные. Она каждым листочком, как своим детям, шепчет нам: радуйся, Человек! Бери меня, Человек! Все это твое, Человек! Только будь человеком, Человек! А он рубит сплеча направо и налево, прет вперед бульдозером, а позади — кучи хлама. Из-за хлама тяжело становится не только идти, но и дышать».

Тэатральныя крытыкі нярэдка абвінавачвалі А. Петрашкевіча ў залішняй публіцыстычнасці, якая нібыта ва ўрон мастацкасці. Скажу, як думаю: дай нам бог пабольш такой публіцыстычнасці.

Сатырычная камедыя «Злыдзень». Аўтарскі прыём даволі цікавы і арыгінальны. Усе мы злыдненосьбіты, кажа аўтар. І ў кожнага ўсярэдзіне свой персанальны «злыдзень». Калі ён вялікі, то штурхае нас на вялікія гнюснасці, а калі меншы, то і гнюснасці працейшыя. Дадзім мы волю свайму ўнутранаму «злыдню», і ён павядзе нас немаведама куды. Прыціснем крышку — і ён сціхне, прытоіцца да нашай першай слабасці. Толькі не трэба думаць, што «злыдзень» такі просты і бяскрыўдны. Не, ён з нашага ведама і пры нашай асабістай згодзе можа вырасці да маштабаў небяспечных. Можа давесці нас да той рысы, за якой бездань.

А цяпер, паважаны чытач, разгарніце любую газету і прачытайце, што такое ў часы перабудовы перабудавацца асабіста, пераламаць сябе персанальна. А ці не вылупіць гэтага «злыдня» з уласнай душы? А ці не ўступіць у нялёгкую барацьбу з самім сабою?

У Петрашкевіча пра «злыдня» было напісана ў 1973 годзе. Смела напісана пра бюракратызм і яго машыну, пра абыякавасць і яе ахвяры, пра глупства і яго вынікі.

У творах А. Петрашкевіча шмат пытанняў. І ставіць ён іх прама, без агаворак. Адчувае сваю грамадзянскую і партыйную правату. Словам, нязручны ён аўтар для некаторых.

У 1982 годзе А. Петрашкевіч напісаў п'есу «Мост упоперак ракі» — пра нашы адносіны да помнікаў, да гістарычнай памяці народа, да яго вытокаў, да яго культуры. Аўтара трывожыла разбурэнне святыняў, забыццё традыцый, нігілістычнае стаўленне да гісторыі.

Так, на глыбокі жаль, разбурылі больш, чым засталося. Яшчэ заўчора замахваліся на Верхні горад у сталіцы рэспублікі, а нядаўна разбурылі будынак старадаўняга тэатра, дзе выступала трупа В. Дуніна-Марцінкевіча.

Петрашкевіч у сваёй п'есе прыадчыняе падаплёку разбуральнага свербу, і ў гэтым яе каштоўнасць і значэнне.

«Тут своечасова сказаць,— зноў працытую Афанасія Салынскага,—што ва ўсіх сваіх п'есах драматург высоўвае на першы план героя, здольнага павесці за сабой у паход за абнаўленне жыцця».

Пераказ зместу п'ес справа непатрэбная і няўдзячная. Хацелася б многія п'есы А. Петрашкевіча зноў і зноў бачыць у нашых тэатрах.

**Уладзімір НЯФЕД.**

# ВЫМАЎЛЕНАЕ І НАПІСАНАЕ

*Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненні. Пад рэд. акадэміка АН БССР М. В. Бірылы. Мінск, выдавецтва «БелСЭ» імя П. Броўкі, 1987.*

ноў. Найбольшую цяжкасць выклікае напісанне агульных асабовых назоўнікаў. Між іншым, папярэднія даведнікі тут былі катэгарычныя, але не аднадушныя; няма двух з іх, дзе б рэкамендацыі былі паслядоўна аднолькавыя. Лексікаграфічныя крыніцы, напрыклад, давалі: **грабару, гусляру, рэктару**, але **граверы, камбайнеры, муляры** і г. д. У слоўніку ж паслядоўна праводзіцца канчатак -у ва ўсіх агульных асабовых назоўніках на зацвярдзелыя (шыпячыя, р, ц); (аб) **гледачу, рыкшу, урачу, гравёру, гусляру, юбіляру**; і заднеязычныя (г, к, х): (аб) **геолагу, драматургу, выбаршчыку, выпускніку, пастуху**. Канчатак -е маюць назоўнікі на цвёрдыя зычныя: (аб) **апекуне, бандурысце, бардзе**. Канчатак -ю маюць назоўнікі на мяккія зычныя: (аб) **вучню, дзядулю, цесцю.**

Дыферэнцыравана падаецца ўжыванне канчаткаў меснага склону ў залежнасці ад семантыкі слоў, напрыклад: **двор** — на двары і на дварэ **(не ў памяшканні)**; **рог** (жывёлы) на розе, **(вуліцы, стала і інш.)** на рагу.

Аўтары ўлічылі крытыку, якая ў свой час прагучала на старонках «ЛіМа», у адрас неапраўданага напісання апострафа не перад ётавымі галоснымі. Зараз у «Слоўніку беларускай мовы» паслядоўна даюцца напісанні: **зарыентавацца, зараць, зынацчыць, зэканоміць** і гэтак далей.

Слоўнік, захоўваючы катэгарычнасць нарматыўных рэкамендацый, падае больш шырока, чым раней, магчымыя варыянты слоў і асобных форм. Даецца пералік дзеясловаў, у якіх дапускаецца ўжыванне дублетных форм ад двух асноў (з чаргаваннем і без яго): **кляпаць** незак., кляплю, клепляш, -ле, -лем, -леце, -люць і кляпаю, кляпаеш, -ае, -аюць. Падаюцца ўсе прыставачныя ўтварэнні ад падобных дзеясловаў, якія маюць раўнапраўныя формы з чаргаваннем і без яго: ад-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, у- **(-кляпаць)**; ад-, да-, на-, пера- **(-сукаць)**. Аднак чамусьці дзеясловаў **пасукаць** прыводзіцца толькі з формамі без чаргавання **пасукаю, пасукаеш**, -ае, -аюць. А непаслядоўнасць у падачы дублетных форм дзеяслова **стругаць** і прыставачных з коранем **-струг-** выклікае сумненне ў правільнасці той або іншай формы. Відавочна, што не ўсе рэкамендацыі слоўніка бясспрэчныя. Не заўсёды іх з'яўленне звязана з навуковай канцэпцыяй аўтараў. Часцей яны абумоўлены не толькі наяўнасцю дублетаў у літаратуры, але і граматычнай нераспрацаванасцю тых або іншых пытанняў словазмянення. Пажадана б была больш паслядоўная падача форм загаднага ладу (бо пры дзеяслове **кляпаць** яе няма, а пры **шчыпаць** ёсць, пры **грызці** загадны лад не прыводзіцца, а пры **прагрызці** даецца), асабовых форм і прошлага часу.

Няма сумнення, што «Слоўнік беларускай мовы» будзе карысным дапаможнікам па арфаэпіі, паколькі ў ім паслядоўна праведзены арфаэпічныя нормы сучаснай мовы. Калі ў напісанні слова ці яго формы адлюстроўваецца літаратурнае вымаўленне, арфаэпічная норма асобна не падаецца. У галіне арфаэпіі аўтары характарызуюць толькі тыя з'явы, якія не адлюстроўваюцца на пісьме. Напрыклад, паслядоўна падаецца змякчэнне зубных (з, с) перад губнымі: **святляк** (сьвя), **спіс** (сьпі), **смех** (сьме) і іншыя. Паслядоўна праводзіцца таксама памякчэнне зычных: **двукоссе** (сьсе), **суквецце** (цьце); узнікненне падаўжэння афрыкат у выпадку спалучэнняў «выбухны +афрыката»: **дасведчык** (чч), **пракатчык** (чч); прыпадабненне свісцячых і шыпячых зычных: **пагрузчык** (шч), **пясчаны** (шч); сцяжэнне зычных: **гарадскі** (цк), **іракезскі** (ск). Паслядоўна праведзена пазіцыйнае змякчэнне папярэдніх зубных перад мяккімі зубнымі і азванчэнне зычных.

На жаль, аўтары не заўсёды прытрымліваюцца адной і той жа транскрыпцыі, што можа выклікаць ва ўважлівага чытача пэўныя непаразуменні: **пацыенты** (нтц), **зеландцы** (нтц), **заездцы** (цц). Заўважаны ў слоўніку і незразумелыя пропускі асобных лексічных адзінак. Магчыма, таму, што аўтары пайшлі за папярэднімі лексікаграфічнымі выданнямі, у якія гэтыя словы не былі ўключаны. Ні ў адным слоўніку няма слова **звязда**. А як жа тады быць з назвай цэнтральнай газеты «Звязда»? Адсутнічае дзеяслоў **ждаць** побач з **чакаць**. Чаму?

Хоць «Слоўнік беларускай мовы» рабіўся на працягу доўгага часу (пачатак работы адносіцца да 60-х гадоў), аўтары разам з выдавецтвам не змаглі выявіць усе памылковыя напісанні слоў і форм, якія ўзніклі па розных прычынах. Значная іх колькасць прыведзена ў якасці памылак друку, якія змешчаны на асобным аркушы, пакладзеным у слоўнік. Аднак некаторыя з іх не трапілі і ў памылкі друку. Хацелася б звярнуць увагу на тое, што непаслядоўна пададзена напісанне карэннага **я: (кленяце, але закляняце, кіпеціце, але закіпяціце, яршыцеся**, хоць корань **-ерш-** і г. д.). Згодна з цяперашняй практыкай усе назоўнікі на -ізм пачалі ўжывацца з канчаткам **-у** у родным склоне. Аднак слоўнік для слова камунізм дае канчатак **-у**, для сацыялізм — **-а** і **-у**. Безумоўна, канчатак **-а** у гэтым выпадку — яўны недагляд аўтараў і рэдактараў. Гэта вельмі прыкра. Але ў працы, якую рабіў цэлы калектыў, не заўсёды можна пазбегнуць разнабою.

Хочацца падкрэсліць, што даступнасць матэрыялу дае падставу рэкамендаваць слоўнік усім, хто цікавіцца пытаннямі нарматыўнасці беларускай мовы.

**Валянціна РУСАК.**

# ЗА ПЕРАБУДОВУ Ў ЖУРНАЛІСТЫЦЫ

*Культура мовы журналіста. Выпуск 3. Мінск, выдавецтва «Універсітэцкае», 1986.*

нікі лінгвістычнай дыскусіі, узнятай «Литературной газетой» у 1983 годзе, *на бясспрэчных* прыкладах паказвае, што штучная метафарызацыя, слоўныя выкрунтасы, надакучлівыя штампы, няўклюдныя словаўтварэнні, псеўданавуковыя выразы, груваскія сінтаксічныя канструкцыі, шматлікія аддзеяслоўныя назоўнікі і інш.— усё гэта псуе і збядняе жывую мову. У артыкуле ставіцца пытанне пра залішне частае ўжыванне т. зв. «расшчэпленага выказніка» і прыводзіцца яскравы, *неаспрэчны прыклад*, а з ім і высновa: **Маці прыбірае ў хаце** будзе лепш, чым **Маці робіць уборку ў хаце**. Афіцыйна-дзелавы стыль у некаторых раённых газетах гэтаксама не лепшы спосаб падачы публіцыстычнага матэрыялу. У артыкуле не толькі прыведзена шмат прыкладаў заганнай творчасці журналістаў, але і даецца многа слушных парад. На наш погляд, усе парады і заўвагі аб'ектыўныя.

Прафесар А. Наркевіч у артыкуле «Словаспалучальныя новаўтварэнні ў мове прэсы» па пунктах у гістарычным развіцці праследжвае новыя словы і словазлучэнні, якія прыйшлі ў беларускую мову за гады Савецкай улады і якія шырока ўжываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Пералік гэтых груп новых моўных адзінак і прыклады з перыёдыкі, якія дэманструюць канкрэтныя шляхі іх ужывання, могуць саслужыць журналістам добрую службу як узоры, як даведнік. *Журналісты могуць* карыстацца імі, каб не «выназходзіць» новых лексем і словазлучэнняў.

Карысную гутарку вядуць з журналістамі сааўтары зборніка В. Красней — «Тэрміны на старонках газет», М. Кусянкоў — «Нататкі пра стыль інтэрв'ю» і М. Малышыц «Пра шкоднасць «канцылярыта».

Успрыйманне матэрыялу газет чытачом аналізуе аўтар артыкула на рускай мове «Слова ў ацэнцы носьбітаў мовы» М. Карповіч. На прыкладах тыпу: **тэхнолаг па вытворчасці мяса** замест **даглядчык** і да т. п. М. Карповіч сцвярджае, што такое словаўжыванне можа адштурхнуць чытачоў ад публіцыстыкі.

У артыкуле «Жывое слова ў раённай газеце» М. Цікоцкі прааналізаваў шэраг матэрыялаў з некаторых раённых газет, што выдаюцца на рускай мове: ашмянскай «Красное знамя», брэсцкай «Заря над Бугом» і іншых. Прыводзяцца канкрэтныя прыклады яркага, эмацыянальнага апавядання і сухога канцылярскага пераказу пэўнай інфармацыі.

Не ўпершыню за чысціню і нарматыўнасць беларускай і рускай моў выступае ў друку дацэнт С. Грабчыкаў. Аўтар вядомых слоўнікаў для школьнікаў, настаўнікаў ды і для журналістаў у артыкуле «Фразеалагізмы на газетнай паласе» аналізуе непажаданыя вынікі адвольнага змянення фразеалагізмаў, выкарыстаных так званай кантамінацыі, перайначвання крылатых слоў і іншых вольнасцей газетчыкаў. Так, аўтар абгрунтавана даводзіць, што нельга нанесці візіт у кантору (як гэта было надрукавана ў «Мінскай праўдзе»), бо ў кантору можна зайсці, а візіт наносяць пэўнай асобе (прэзідэнту, прэм'ер-міністру, старшыні); крылатыя словы, сказаныя Далорэс Ібаруры **«Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях»**, — нельга перайначыць на: **«Лягчэй...»** (як гэта сустрэлася ў газеце) і г. д.

Карыснымі для журналістаў будуць і артыкулы «Інтэрв'ю: стылістыка пытанняў і адказаў» Л. Мароз і «Простая мова і дыялог у газетным рэпартажы» Т. Ждановіч, якія надрукаваны на рускай мове.

**А. ШЫДЛОЎСКІ,**
**дацэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў.**



Люблю цябе, мой бераг родны... Фотаэцюд А. ЛАБАДЫ

З насценгазеты заявіў рашуча:
Бо Сталін жыццё, а жыццё — неўміруча!

Матэматычка, маці нашай Бэлы
(У Бэлы наша ўсё — герой і час)
Апавясціла афіцыйна клас,
І ўсім ураз заныла, забалела.
Ды класная ў агульным хоры плачу
Ўзвілася голасам на ўсю Ушачу.

І гэта ўжо нагадвала вісчанне
На ўбоінах — і ў парту галавой
Убіўся я, каб нават голас свой
Не чуць, а што як здуру смешна стане?
Я ўжо звыкаў баяцца ўласных думак.
Бо горбіўся заплеччу страху клумак.

Крутнуў лакцём — і ўвесь густыш
і жыжу
З бутэлечкі-чарніліцы да дна
На шапку выліў — сіняя яна!
І зарыдаў наўзрыд, па-ўшацку —
ўзрыжжу.
Было мне гора ўсёй планеты мала,
Шкада вушанкі цэлай, новай стала.

Заплаканы прыйшоў маўкліва ў хату,
І гора, і разгубленасць прынёс,
Ды маміных не ўбачыў горкіх слёз,
І ўсепланетную тлумачыў страту.
Цяпер я разумею, болей маме
Бядзіла, як стачыць канцы з канцамі.

Ды сонейка ўзыходзіла. Тым часам
На лета бралася. Ішло цяпло
Адразу і ў райцэнтр і на сяло.
Наш клас спаборнічаў з суседнім
класам.
Гусцела ярына. Пладзіўся статак.
За яблыні адменьваўся падатак...

І браўся курс, каб лёгкай
прамысловасць
Зрабіць. І чулася з усіх бакоў
Прыслоўе: «Малянкоў напек блінкоў».
Смялець адважвалася прамысловасць.
(Яшчэ і пры Хрушчове ўсе гулянкі
Пілі з рубчастай «малянкоўскай
шклянкі»).

Малыя дзеткі — і малыя бедкі
У мамы лозунг быў і курс адзін.
Пятнаццаць сотак — тут і магазін,
І рынак, — удавіныя палеткі.
Наёмнай конская бывала сіла,
Як узараць гарод за літр прасіла.

Я школьную рэдагаваў «Калючку»,
І ў гневе крытыкі кіпеў, як Аш
Два О, кляйміў, што рух трымала наш,
На помач клікаў дзедку, бабку, Жучку.
Ад правільнасці галава шумела.
А дысцыпліну ўсе зрывалі смела.

І нас, актыўных, мабілізавалі
Ісці ў сяло, да мас чытаць Даклад,
Дзе ўсё тлумачылася акурат,
Але мяне праблемы хвалявалі
Літаратуры, і невыпадкова,
Што нетыпова ў нас і што тыпова?

Я ў Строкты агітатарам падаўся,
У вёску нетыповую зусім,
«Кубанскіх казакоў» вясёлы ўздым
І прывідам тут нават не туляўся.
Ступаў па лужынах бадзёрым крокам.
Кулацкая частушка злосным вокам
Міргала мне, нахаба:

Падзівіся,
Як калгасы разжыліся:
Пуня ракам, хата бокам,
І кабыла з адным вокам...

Успомні словы іншыя такі:
Міргай сабе, кулацкая нагога,

Сердце ноет от тоски,
Соловки, вы Соловки,
Дальняя дорога,
На сердце тревога...

А ў рыфму самі просяцца радкі:
Каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі...

Усё, дзе непаладкі, — нетыпова.
Ёсць лінія, і яе вяду.
Падымем — на вяроўках — гавяду,
І мне, як і Ясеніну, карова
Аддасць за вершы плату сырадоем
(З бярозкай томік прачытаў запоем).

Сарочы строкат — Строкты. Зябка
ў хату
Заходжу. Хліпае газнічка ледзь.
Я мушу прачытаць Даклад паспець,
Ідэйную адбыць як трэба рату.
А голас там, за комінам, старэчы:
«На печы добрыя рэчы»...

І я чытаў, перакладаў адразу
Па-беларуску. Важкі быў Даклад.
Для зразумеласці на ўшацкі лад
Прасціў занавукоўленую фразу.
Я верыў шчыра, а не па загаду
У гістарычнасць кожнага Дакладу.

Чытаў гучней, каб не здалося глуха.
І недзе ўжо на трэцяй паласе
Заснула, як капуста на лясе,
Мая слухачка, вечная капуха.
Галасавых не шкадаваў я звязак,
Ды недавыканаў свой абавязак.

Я ў ноч ступіў. Блішчэлі каляіны.
Скалелы і ў гразі дамоў прыйшоў,
Дабіўшы чаравікі да цвікоў
Адзіныя. Абцопкаў калашыны.
Я сніў трывожна полюс і экватар,
Як скампраметаваны агітатар...

У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ

# СТАЛА РОДНАЙ БЕЛАРУСЬ



Прачытаная колькі месяцаў назад кніжка Сяргея Красікава «Полесские мотивы» (яна ў канцы мінулага года пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура») у гэтыя восеньскія дні загучала для мяне па-новаму. Больш зразумелымі сталі і паэтава радасць і яго туга, а роздум лірычнага героя аб днях пражытых крануў тыя струны душы, што адгукаюцца толькі пад час асаблівага ўзрушэння. Момант такі якраз і надарыўся — С. Красікаву спаўняецца шэсцьдзесят...

Радкі, што запомніліся адразу. Запалі ў душу той жыццёвай прастатой, якая вызначае паэзію, зямную ў сваёй аснове, не надуманую, а быццам выдыхнутую адразу, калі грудзі напаўняюцца паветрам зямлі, дарагой і блізкай табе:

**Пар приречный плывет за возами,**
**Укрывает ворсинки гумна,**
**И деревня темнеет глазами,**
**И темнеет от тучи луна.**
**Отгорает закатная долька.**
**Осыпается вербная цветь.**
**Соловей размечтался настолько —**
**Захотел и не может запеть.**

Не ведаю, дзе яны пісаліся С. Красікавым. Магчыма, у роднай для яго Сібіры, у Кармілаўскім раёне Омскай вобласці, адкуль пачалася жыццёвая сцяжынка. Можа, на беларускай зямлі, што даўно стала для яго другой радзімай. Маглі яны з'явіцца і ў Маскве, дзе закончыў Сяргей Паўлавіч у 1957 годзе універсітэт — як успамінак аб тым, што не забываецца. Падобных вершаў, быццам настоеных на пахах зямлі, увабраўшых у сябе водар яе красак, свежасць палеткаў, зялёнае дыханне лугоў, нямала ў кніжцы «Полесские мотивы». Яна — прызнанне аўтара ў любові да Беларусі, да людзей, якіх ведае паэт і з кім сябруе.

Да дарагога чалавека звяртаецца С. Красікаў і ў гэтым вершы:

**Принеси мне хорошие вести**
**И букет из июньских цветов,**
**Белорусскую тихую песню,**
**Ту, что петь я и слушать готов.**

Ці не ўпершыню прагучала «ціхая песня» для Сяргея Паўлавіча тады, калі ён, рэдактар альманаха «Поэзия», завітаў на Віцебшчыну, а калі дакладней, на Полаччыну, дзе якраз праходзіў семінар творчай моладзі? Сталася так, што сустрэча гэтая з Беларуссю многае змяніла і ў яго асабістым жыцці. Пазней з'явілася жаданне не толькі бліжэй пазнаёміцца з творчасцю беларускіх калег, але і сёе-тое пераўвасобіць па-руску. Так стаў ён адным з перакладчыкаў беларускай паэзіі.

Сёння, дзякуючы нястомнай працы С. Красікава ўсесаюзны чытач можа прачытаць кнігі П. Броўкі «Березинский заповедник», А. Бачылы «Плечо друга», А. Лойкі «Немига», А. Грачанікава «Полесские легенды», У. Карызны «Кьонг и его друзья»... Разам з Ю. Морыц пераклаў ён «Вече славянских баллад» Я. Сіпакова, з Ю. Дзянісавым — зборнікі Л. Дайнекі «Теплая земля» і У. Скарынкіна «Разрешите взлет»...

Важкія перакладчыцкія набыткі — у калектыўных зборніках і анталогіях. Плённа працуе С. Красікаў і як арыгінальны паэт. Акрамя «Полесских мотивов», у яго выйшлі кнігі «Уголок России», «Раздумья», «Отчее крыльцо», «Дымные зори» і іншыя, а таксама нямала *напісана вершаў для дзяцей*. Да ўсяго С. Красікаў —паэт-песеннік.

Прыгадваецца сустрэча, што адбылася чатыры гады назад у майстэрні Нэлы Шчаснай. Шмат перагаварылася і пра паэзію, і пра жывапіс. Не было такой тэмы, якая б не цікавіла Сяргея Паўлавіча... А потым ён узяў грампласцінку і паставіў на прайгравальнік. Крыху сорамна стала, што, чуючы неаднаразова гэтыя песні па радыё, не ведаў, што вершы да іх напісаў С. Красікаў. «Бабье лето», «Наташка», «Молодая вишня»... Гэта не шлягеры, якія прыходзяць і адыходзяць нечакана, як нечакана заваёўваюць і папулярнасць, а песні — для душы, спакутаванай па простым і зямным.

Праз два гады зноў была сустрэча. Не чакаў убачыць Сяргея Паўлавіча на Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Сустрэў жа не абы-дзе, а каля стэндаў беларускай кнігі. Цікавіўся С. Красікаў навінкамі літаратуры, з асаблівым хваляваннем знаёмячыся з новымі паэтычнымі зборнікамі. Ахвотна згадзіўся даць невялічкае інтэрв'ю для «ЛіМа», дзе коратка сказаў, што для яго значыць беларуская літаратура.

...Перачытваю зборнік і быццам чую голас самога Сяргея Паўлавіча: «День, как чистая страница. Время исповедь писать». Чую і ведаю: шмат якія старонкі споведзі гэтай у кнізе «Полесские мотивы», якую ўспрымаеш як прыязнае слова блізкага сябра... «Беларускія пушчы», «У Белавежы», «22 чэрвеня 1941 года» — гэтыя і многія вершы, пабудаваныя на беларускім матэрыяле, споведзь шчырая і адкрытая, даверлівая, якая заслугоўвае да сябе пільнай увагі.

У кнізе змешчаны партрэт С. Красікава, выкананы Н. Шчаснай. Ён пададзены ў акаёме традыцыйнага пояса з беларускім нацыянальным арнаментам. Поруч — палявыя кветкі і вербная галінка. Малюнак гэты добра перадае сувязь паэта з зямлёй, над якой «журавлиный клин мелодией восходит над Полесьем». У мелодыі гэтай чуваць і водгалас паэзіі С. Красікава.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**чы, і ніводны наведвальнік не пройдзе міма яе. Кожная выстаўка затрымліваецца ў магазіне на 1—1,5 месяца.**

— Што для вас галоўнае пры адборы твораў?

**— Галоўнае, каб работы былі цікавыя, няхай нават спрэчныя. Тады ніхто не застаецца раўнадушны. Таму мы стараемся экспанаваць творы мастакоў розных пакаленняў. Нашы наведвальнікі знаёміліся і з работамі П. Масленікава — сталага майстра з усталяванай манерай пісьма, і зусім маладога мастака Ф. Кашкурэвіча, які шмат эксперыментуе, спрабуе свае магчымасці ў розных тэхніках.**

— А як вы самі ставіцеся да «нетрадыцыйнага» мастацтва?

**— Кожны напрамак мастацтва мае права на існаванне. Людзі самі разбяруцца, дзе сапраўднае, а дзе падробка.**

— Ці не ўзнікае ў вас праблем з той прычыны, што спецыялізаваная кнігарня знаходзіцца далёка ад цэнтра горада?

**— Вядома, месца для кнігарні не вельмі ўдалае, але і сюды завітваюць прафесіяналы і аматары мастацтва. Інфармацыі аб яе адкрыцці амаль не было, і многія толькі зараз даведваюцца, што яна наогул існуе ў Мінску. Ёсць праблемы і з рэкламай выставак. Вісяць аб'явы ў БДТМІ, мастацкім вучылішчы, Інстытуце культуры, але ж гэтага недастаткова. Дапамагаюць нам кнігалюбы, а таксама Алег Рыгоравіч Астроўскі — выкладчык музычнага вучылішча імя Глінкі. Кнігалюбы ды яшчэ навукова-даследчы інстытут ЭВМ і з'яўляюцца асноўнай аўдыторыяй на абмеркаваннях выставак, якія мы праводзім адразу пасля адкрыцця чарговага вернісажу. Сярод інжынераў ЭВМ мы знайшлі верных сяброў, людзей, якім сапраўды цікава ўсё, што звязана з мастацтвам. Людзей збіраецца многа, у магазіне робіцца цесна. Ёсць дадатковае сховішча «Саюздруку» і калі б нам перадалі яго, мы зрабілі б там канферэнц-залу, куды можна было б запрашаць усіх жадаючых. Неабходна нам і сапраўдная рэклама, каб да нас ехалі людзі.**

—І традыцыйнае пытанне: з кім вы плануеце пазнаёміць вашых пакупнікоў у бліжэйшы час?

**— Наперадзе ў нас выстаўкі экслібрысістаў Літвінава, Судлянкова. Мы паспрабуем звесці нашых наведвальнікаў з рознымі галінамі мастацтва, асабліва з тымі, якія малазнаёмыя гледачу. Мы марым зрабіць такія вернісажы традыцыйнымі, зрабіць іх арганічным дапаўненнем нашай асноўнай працы.**

**Гутарку вяла Н. ШАРАНГОВІЧ.**

распацешыла». А вось зноў настроіліся на танальнасць — і загучала суладна ў ансамблі з сямі чалавек купальская левашоўская песня. Чаму левашоўская? Дык гэтая ж купальская песня спявалася ў даўнія часы ў Левашах, роднай вёсцы Пелагеі Яфімаўны і Вольгі Іванаўны. Там нават такія радкі ёсць:

**А ў Левашове дзеўкі гладкі —**
**Глядзець гадка,**
**А на пасёлку дзеўкі худы —**
**Глядзець люба.**

Кранальнаю атрымалася сустрэча ансамбля «Крынічка» Мінскага музычнага вучылішча са старэйшымі выканальніцамі беларускіх народных песень. І можна сказаць, што пашанцавала не толькі дзяўчатам, якія атрымалі магчымасць пачуць многія песні «з першых вуснаў», але і Пелагеі Яфімаўне з Вольгай Іванаўнай: іхнія песні запісаны на магнітафонную стужку, некаторыя пакладзены на ноты, некаторыя гучаць ў выкананні «Крынічкі» і народнага хору Мінскага музычнага вучылішча «Медуніца». А ёсць жа, несумненна ёсць на Беларусі таленты, да якіх яшчэ не дабраліся энтузіясты з магнітафоннымі стужкамі, з нотнымі сшыткамі. Я ўжо не кажу пра такі, самы надзейны і творчы спосаб прадоўжыць жыццё песні, як пераймане «з вуснаў у вусны». Менавіта гэты спосаб абралі для сябе маладыя ўдзельніцы ансамбля «Крынічка».

**Арнольд ДЫБЧА,**
**рэжысёр Беларускага тэлебачання.**

рафічна мала адметных спецыялістаў рыхтуюць нашы навучальныя ўстановы, спецыялістаў, здатных стварыць і ўзначаліць танцавальны калектыў. Упраўленне культуры, прынамсі, плануе ўжо з наступнага года пачаць стварэнне платных харэаграфічных студый, школ мастацтваў, у якіх было б арганізавана навучанне харэаграфіі. Сумесна з МТ неабходна больш аператыўна вырашаць маладзёжныя праблемы ў самадзейным музычным мастацтве. З'явіліся, напрыклад, новыя плыні ў музыцы, танцы, а мы не гатовыя разабрацца, узначаліць і правільна накіраваць гэтыя захапленні моладзі.

Дакладчык адзначыў, што самым масавым асяродкам культуры застаецца клуб. Клубу. як сацыяльнаму інстытуту неабходна перабудова. Сацыёлагі пацвярджаюць, што ён як установа культуры і адпачынку не мае сёння пэўнага аўтарытэту ў насельніцтва, асабліва ў моладзі. Музычнаму таварыству наканавана ўмацоўваць сувязі з органамі народнай асветы, прафтэхадукацыі, з камсамолам. МТ павінна стаць саюзам людзей рознага ўзросту.

**ВЫСТУПЛЕННІ У СПРЭЧКАХ** закранулі розныя аспекты дзейнасці музычных навучальных устаноў, інструментальных, харавых і харэаграфічных калектываў і, вядома ж, рабочых перспектыў МТ.

Выбраны кіруючыя органы Мінскага абласнога аддзялення МТ. Яго старшынёй стаў кампазітар, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Валерый Іваноў.

**У. МАМОНЬКА,**
**намеснік дырэктара Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы.**

## КІНО

# Мы са Слоніма

У ДНІ, калі ідзе перабудова школьнай справы, кожная карціна аб педагогах, мастацкая ці дакументальная, сустракаецца гледачамі з асаблівай цікавасцю. Пра школу, яе будні і святы, пра рэформу, яе ўкараненне ў практыку створана ўжо нямала фільмаў. Але не ўсе яны раўнацэнныя па сваіх мастацкіх якасцях. Адны пакутуюць ад шматслоўя, другія — ад прымітыўнага рашэння важнай тэмы, што ў выніку прыводзіць да павярхоўнага паказу школы і яе праблем. Аднак, як бы там ні было, стужкі аб школе сёння — самая пракатная прадукцыя мастацкай, дакументальнай і навукова-папулярнай кінематаграфіі. Не залежваецца на паліцах кінапракату і новая кароткаметражная хранікальна-дакументальная карціна «Твар у твар», створаная ў аб'яднанні «Летапіс» студыі «Беларусьфільм». Яна апавядае аб тым, як увасабляецца ў жыццё школьная рэформа ў дзесяцігодцы № 2 горада Слоніма, адной з лепшых на Гродзеншчыне.

Аўтар сцэнарыя журналіст Аляксандр Сачанка добра ведае сённяшнюю школу. Яго назіранні і роздум аб выхаванні і навучанні падрастаючага пакалення і пакладзены ў аснову сцэнарыя, які ў першым варыянце называўся «Ці патрэбны школе паэты?». Але, як часта бывае ў кінавытворчасці, асцярожнае рэдактарскае пяро зняло пытанне аб паэтах, а разам і аб галоўнай гераіні сцэнарыя, настаўніцы беларускай мовы А. В. Руцкай. Да таго ж напалавіну быў скарочаны метраж будучага фільма.

Замяніўшы назву фільма з праблемнай («Ці патрэбны школе паэты?») на пракатную («Твар у твар»), рэжысёр А. Чакмянёў, аператар С. Канавалаў і іншыя члены здымачнай групы як бы адышлі ад канкрэтнага пытання і зрабілі фільм «наогул» аб школе, хаця і на канкрэтным матэрыяле. Але нават у такім ракурсе карціна застаецца цікавай і актуальнай.

У сцэнарыі А. Сачанкі карціна пачыналася з размовы дырэктара школы А. В. Бяляніна з настаўніцай, якая нетактоўна паводзіла сябе на ўроку. Вось гэтая непрыемная для абодвух размова:

— Колькі гадоў працуеце ў школе?— пытаецца Анатоль Васільевіч. І сам адказвае: — дзесяць гадоў... Чаму ж крычалі на вучня?..

— Пад гарачую руку... Не магла стрымацца.

— Лічыце, што вы дзесяць гадоў у школе не працавалі,— сурова гаворыць дырэктар.— Вы разумееце, што страцілі давер вучняў?.. Разумееце, што вам трэба пачынаць з самага пачатку?..

Размова была запісана і знята на плёнку, але ў фільм ўвайшла толькі часткова. А гэта быў запеў да ўсёй карціны. Так, на думку стваральнікаў стужкі, пачыналася сур'ёзная размова пра давер вучня да настаўніка і настаўніка да вучня.

Аўтары фільма гавораць, што для калектыву настаўнікаў школы № 2 Слоніма гэты выпадак адзінкавы. Таму такі жорсткі ў сваіх развагах дырэктар. І глядач яго разумее. Потым жа мы бачым на экране Анатоля Васільевіча, як гаворыцца, «у дзеянні». Ён строгі і непрымірымы да ўсякай грубасці, верхаглядства і адначасова тактоўны, інтэлігентны і спагадлівы. Да школьнай рэформы ён адносіцца як да ломкі старога, аджыўшага. Галоўны сэнс рэформы А. Бяляніна бачыць у павазе да чалавечай асобы. Ніколі нельга забываць, што ты настаўнік, лідэр, прыклад выхаванасці, узор ветлівасці. Дрэнна, калі вучань баіцца настаўніка, але яшчэ горш, калі ён не паважае яго, не бачыць у ім сябра. Няправільная, гаворыцца ў карціне, фармуліроўка: «Вучань — аб'ект, настаўнік — суб'ект». Гэта сцяна, якую трэба разбурыць. Трэба настаўніку і вучню павярнуцца адзін да аднаго твар у твар.

Далей ідуць кадры, якія дэманструюць, як разбураецца гэта сцяна ў слонімскай школе. Тут аўтары пераходзяць да паказу сваёй галоўнай гераіні — выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры, заслужанай настаўніцы БССР, члена Саюза пісьменнікаў СССР, паэтэсы Алены Вітальеўны Руцкай.

Кінакамера ўважліва прасочвае, як вядзе яна ўрок беларускай мовы ў 4-м класе. Урок у многім незвычайны. Дзеці выдумляюць казку... аб гордым Дзейніку і яго таварышах Дзеяслову і Прыметніку. Чацвёртакласнікі захоплены лінгвістычнай гісторыяй.

Аналізуючы ўрок А. Руцкай, намеснік дырэктара па навучальнай рабоце Тамара Мікалаеўна Савіч гаворыць, што даўно надышла патрэба разбурыць старыя, традыцыйныя рамкі методыкі выкладання. У школе цяпер уводзяцца ўрокі-гульні, урокі-казкі, урокі-рэпартажы, урокі-загадкі, урокі-вікторыны, урокі-эстафеты і многае іншае. Сталі больш актыўнымі і разнастайнымі формы навучання. Яшчэ зусім нядаўна старыя метадычныя ўказанні прадугледжвалі рэпетыцыі ўсяго школьнага працэса, пачынаючы з урачыстых лінеек, піянерскіх збораў і заканчваючы ўрокам у класе. Усё рабілася аднолькава, на адну калодку, стандартна, затое дакладна і прыгожа. Гэтая паказуха пазбаўляла дзяцей самастойнасці, адводзіла ролю статыстаў у добра зрэжысаваным спектаклі. Цяпер іншы час. І экран зноў вяртае гледачоў на ўрок Алены Вітальеўны, але ўжо ў 6-м класе. Ідзе ўрок-гульня. Гуляюць «у кіно», гэта значыць, разыгрываецца сцэна пра тое, як бы школьнікі знялі фільм па толькі што пройдзеным матэрыяле. Гэтая імправізаваная «экранізацыя» праходзіць весела, ажыўлена, захоплена.

Метраж не дазволіў пастаноўшчыкам поўнасцю паказаць урокі А. Руцкай, хаця яны заўсёды арыгінальныя і вынаходлівыя. Не знайшлося, на жаль, у карціне месца і для паказу «Літаратурнай гасцінай» слонімскай школы. Тут праводзяцца не толькі розныя факультатыўныя і пазакласныя заняткі, але працуе агульнашкольны літаратурны гурток, праводзяцца вечары паэзіі.

Сама ж А. Руцкая ў фільме паказана сціпла і дзелавіта. Мы прысутнічаем на яе ўроках, бачым выязныя заняткі літаратурнага клуба ў Навагрудскім музеі Адама Міцкевіча, удзельнічаем у абмеркаванні вершаў школьнікаў... «Знайсці паэзію ў сабе, — гаворыць настаўніца сваім вучням,—да гэтага павінен імкнуцца кожны з нас». Алена Вітальеўна дзеліцца з гледачамі сваімі думкамі аб школе і школьнай рэформе, гаворыць аб калегах-педагогах.

Несумненны поспех гэтай кароткай кінастужкі, напэўна, быў забяспечаны дакладным выбарам герояў. Асоба настаўніка сама па сабе настолькі прыцягальная, што імкненне кінематаграфістаў аддаць належнае нялёгкай яго працы ў многім забяспечае ўвагу гледачоў. Але каб зняць такую карціну, як «Твар у твар», аднаго прафесіяналізму мала. Патрэбны глыбокі аналіз перамен, якія адбываюцца ў школе, грамадзянскае суперажыванне да тых, хто па-падзвіжніцку працуе на пярэднім краі барацьбы за паспяховае ажыццяўленне школьнай рэформы. І гэтыя рысы выявілі аўтары фільма — кінапубліцысты.

**Яўген КРУПЕНЯ.**

## НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

# Два тыдні ў верасні

### БТ: разам ля экрана

Што запомнілася пасля цярплівага двухтыднёвага (з 14 па 27 верасня) прагляду перадач рэспубліканскага тэлебачання? Не так і мала... Спробай намацаць актуальную тэму, выйсці на новы ўзровень кантакту з гледачом вылучалася многае з прапанаванага хатнім экранам — і чарговы выпуск тэлечасопіса «Здароўе», які «змясціў» трывожны сюжэт з Талачынскай райбальніцы і цікава паведаміў пра лячэнне алкагалізму гіпнозам; і прысвечаная праблемам часовага працаўладкавання падлеткаў перадача «Калі выключэнне стане правілам»; і кідкі, з выдумкай зроблены «Маладзёжны тэлевізійны цэнтр»... Але спыніцца хочацца толькі на тых, якія найбольш выразна сведчаць аб працэсах, уласцівых сённяшняму дню БТ.

**У перадачы «Вам адказваюць» адбылася сустрэча з прадстаўнікамі міністэрстваў аўтатранспарту, будаўніцтва і эксплуатацыі аўтадарог, упраўлення грамадзянскай авіяцыі і пасажырскай службы чыгункі. Мяркую, што многія з цікавасцю паслухалі змястоўную гаворку аб праблемах транспарту, якія хвалююць усіх нас. Прыемна было ўсвядоміць, што тэлебачанне не проста інфармуе, ставіць праблему, а і актыўна ўмешваецца ў жыццё, памагае больш хуткаму вырашэнню канфліктаў. Але перадача была працяглай, замаруджанай, і ў нейкі момант я злавіла сябе на тым, што даўно ўжо проста слухаю, не зважаючы на экран, бо там... нічога цікавага не адбываецца. Чамусьці тэлебачанне, якое мае ў адрозненне ад радыё і друку магчымасць паказу ўсіх сітуацый, пра якія ідзе гаворка,— надзвычай бедна выкарыстоўвае відэакаментарый, відэаназіранне. І ці не перастае яно, у такім разе, быць самім сабой? Нічога не маю супраць «застольных» студыйных размоў, калі ёсць што паказваць, калі актыўная камера перадае атмасферу, раскрывае характары, выяўляе нейкія ўнутраныя канфлікты і падтэксты... Ды ці мала чаго можа камера!..**

Цікавым сюжэтам вылучалася і перадача «Тры дні жыцця мастака (І. Шышкін у Беларусі.)». Я родам з Брэста, але, да майго сораму, не ведала, што Шышкін быў у Белавежскай пушчы. З цікавасцю накіравала свой позірк на тэлеэкран — і была расчаравана. І не толькі таму, што сцэнарый перадачы, эклектычны і недапрацаваны, патрабаваў рукі прафесійнага драматурга; і не толькі таму, што рэжысура, наўрад ці натхнёная літаратурным паўфабрыкатам, выглядала бездапаможнай, хоць яўна вызначыліся цікавыя акцёрскія работы... На мой погляд, галоўная прычына няўдачы ў тым, што такі сюжэт — у тым варыянце, у якім яго хацелі ажыццявіць аўтары перадачы, — цяжка зняць на базе літаратурна-драматычнай рэдакцыі. Ён хутчэй для «Тэлефільма». Аўтары загадзя ішлі на кампрамісны варыянт. І гэта на нашым тэлебачанні здараецца не ўпершыню. Ці не варта час ад часу задумвацца над праблемай неадпаведнасці творчых задум і магчымасцей іх рэалізацыі?

Чым прывабіла перадача «Купалаўцы ў Маскве» (з цыкла «Тэатр і час»)? Перш за ўсё — тэмай. Было цікава пачуць разважанні маскоўскіх крытыкаў аб работах купалаўскага тэатра, аб сустрэчы беларускіх артыстаў з маскоўскімі гледачамі. Тэма гэта плённая, але — зноў не хапіла відэаматэрыялу, які перадаваў бы жывую атмасферу гастроляў (былі ж, напэўна, дыскусіі, сустрэчы з гледачамі, было поўнае сваіх клопатаў і радасцей гастрольнае жыццё тэатральнай трупы). Хацелася б пажадаць перадачам цыкла «Тэатр і час» дакладнасці і кампактнасці — ад гэтага яны толькі выйграюць, стануць больш яркімі і насычанымі. На гэты раз, напрыклад, зусім лішнім падалося мне заключнае слова вядучага В. Ракіцкага, бо і ў сэнсавым, і ў кампазіцыйным плане кропка была пастаўлена апошнім інтэрв'ю.

І яшчэ. Гастрольныя рэпартажы, якія зрэдчас сустракаюцца ў праграмах нашага тэлебачання, павінны стаць традыцыяй. Мне здаецца, беларускаму тэлегледачу заўсёды цікава даведацца, які водгук мае наша мастацтва ў іншых рэспубліках, а таксама за мяжой.

Да 80-годдзя з дня нараджэння паэта С. Дзяргая была паказана перадача «Сапраўднае». Нягледзячы на статычнасць, на небагаты арсенал сродкаў выразнасці, яна пакінула добрае ўражанне. З таленавітых вершаў С. Дзяргая, з эмацыянальнага і шчырага расказу В. Тараса паўставала галоўнае — творчы і чалавечы лёс Паэта.

**У праграмах музычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання заўсёды ёсць перадачы, якія расказваюць аб народнай творчасці, аб цікавых фальклорных калектывах і выканаўцах. Апошнія не заўсёды падабаюцца, і вось чаму. Я не раз лавіла сябе на думцы аб тым, як ненатуральна выглядаюць фальклорныя калектывы ў штучна створаным для здымкаў асяроддзі, нават калі гэтае асяроддзе — аселіца іх роднага сяла. Усялякія ўмоўныя рэжысёрскія мізансцэны ў большасці сваёй выглядаюць няўдалымі. І справа тут у сутнасці фальклору, у аснове якога ляжыць непасрэднасць... На гэты роздум і навяла мяне перадача «Шануйце песні свае», якая прыемна здзівіла сваёй арганічнасцю, вобразна і паэтычна расказаўшы аб непарыўнасці, адзінстве народнай песні і лёсе беларускай сялянкі, спявачкі Насты Пашкевіч. Я ўжо не гавару аб саміх песнях, якія для большасці тэлегледачоў, напэўна, з'явіліся адкрыццём.**

Самых добрых слоў заслугоўваюць такія перадачы, як «ТЭМП», «Гасцінны двор», «Вецер вандраванняў», створаныя маладзёжнай рэдакцыяй (яна, на мой погляд, у пошуку новых форм з'яўляецца лідэрам на Беларускім тэлебачанні); прыемнае ўражанне пакінула «Музычна-інфармацыйная праграма»... Увогуле, варта адзначыць актывізацыю творчага працэсу на БТ, і найперш — у пошуках актуальных тэм і праблем. І яшчэ, мне здаецца, больш актыўным і амаль своечасовым стаў паказ важнейшых падзей нашай рэспублікі.

Я сказала «амаль», бо яшчэ шмат трэба зрабіць дзеля таго, каб наш тэлээфір быў напоўнены непасрэднасцю і праўдай сённяшняй плыні жыцця.

**Ірына КУДЗЕЛІНА.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ЧАМУ Ж НЕ ГАНАРЫМСЯ...

**Здавалася, адышлі гастрольныя турботы, уляглiся хвалявaнні, акрэсліліся і ўсталяваліся ацэнкі. Падсумавалі вынікі, і ўзяліся чакаць, што скажуць тэатры ў новым сезоне. А Беларускае тэлебачанне паказвае перадачу «Купалаўцы ў Маскве» і вяртае нас у дні чэрвеня, калі Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы выступаў на маскоўскай сцэне. Быццам бы не ў час, з вялікім спазненнем, калі гаварыць аб аператыўнасці інфармацыі, але развагі вядомых тэатразнаўцаў І. Вішнеўскай, У. Фралова і А. Смялянскага, з якімі пазнаёміла перадача, мне асабіста падаліся вельмі своечасовымі, многае нагадалі і прымусілі шмат над чым задумацца.**

**Напрыклад, доктар мастацтвазнаўства У. Фралоў, разглядаючы спектаклі купалаўцаў, выказаў шмат заўваг амаль па кожнай з шасці гастрольных пастановак, і заўваг прынцыповага характару. Разам з тым, зноў-такі амаль у кожнай, адзначыў тое станоўчае, што трэба падтрымліваць і развіваць, што дапаможа тэатру рухацца наперад. Аказваецца, нам нават ёсць чым ганарыцца!**

**Чаму ж мы не ганарымся?! Пытанне гэтае для мяне ўспыхнула, быццам бліскавіца.**

**Чаму, сапраўды, мы не ганарымся тым, што на беларускай сцэне ідзе складанейшы шэкспіраўскі твор, да пастаноўкі якога так рэдка звяртаюцца тэатры? Чаму не ганарымся, што вобраз маладога старшыні калгаса, створаны Г. Давыдзькам у спектаклі «Апошні журавель» А. Дударава і А. Жука,—адзіны ў сённяшняй саюзнай драматургіі? Можа, таму, што, гаворачы пра вялікія недахопы, значныя пралікі, не паспяваем заўважыць сціплыя здабыткі і топчам парасткі будучых поспехаў? З вадою выплюхваем і дзіця. Напэўна, так?..**

**Мы можам з замілаваннем слухаць, што дзесьці там ставяць кожную сваю драматургічную дробязь. Можам усхвалявана гаварыць пра найвялікшую неабходнасць развіцця беларускай драматургіі і пра яе ролю ў творчым жыцці нацыянальнага тэатра. Калі ж пастаноўкі новых беларускіх п'ес нарэшце з'яўляюцца, то як мы іх сустракаем?..**

**Па адказ далёка хадзіць не трэба. У маі на гастролях у Мінску Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа паказаў спектакль «Цень гары» У. Халіпа. Створанае тэатрам і драматургам выклікала амаль аднадушную негатыўную рэакцыю. Зацягнутая, сумная, бляклая, вобразы не развіваюцца, канфлікт не вырашаецца—і гэтак далей... У такім шырокім крытычным патоку адкуль было ўзяцца развагам пра навізну тэмы, пра яе надзвычай актуальнае значэнне? Не знайшлося слоў, каб адзначыць цікавую работу Я. Шыпілы, які ў гэтым спектаклі, на маю думку, разбурыў стэрэатып уяўлення пра сваё амплуа. Дык ці можна спадзявацца, што аўтар і тэатр стануць удакладняць знойдзенае, будуць сумесна шукаць новае?..**

**Тады ж, у маі, адбылася апошняя прэм'ера сезона ў купалаўцаў—«Мудрамер» М. Матукоўскага. Дома сёння мы толькі і маем, што твор гэты—«на ўзроўні звычайнага жыцейскага лялякання», што ён не выкрывае, а высмейвае. (Дзіўнае якое супастаўленне!) А іншыя даводзяць, што, пры ўсёй сваёй фельетоннай скіраванасці, «Мудрамер»—першая ластаўка ў нашай сучаснай сатырычнай літаратуры, і ў пастанове калегіі Міністэрства культуры СССР і сакратарыята праўлення Саюза тэатральных дзеячаў СССР «Аб ходзе падрыхтоўкі тэатраў краіны да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі» купалаўскі спектакль названы сярод чатырох лепшых у краіне.**

**Ці разумеем усё гэта? Калі разумеем, чаму не пішам, не гаворым? А калі не разумеем?.. Пытанні множацца, і кожнае вымагае адказу.**

**І адказнасці.**

**А. САВІЦКАЯ,**
**аспірантка ІМЭФ АН БССР.**

г. Мінск.

ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

# ЛОМАМ... ПА КАРУНКАХ



*З фасада дома № 15 па вуліцы Талстога ў Віцебску невядомыя асобы знялі ажурныя рашоткі балконаў...*

Пабудаваны ў канцы мінулага стагоддзя, гэты дом, дзе зліваецца Заходняя Дзвіна і Віцьба, яшчэ нядаўна захоўваў цяпло чалавечага ачага. Рамонт яму рабілі не часта, і ў звычайных сваіх клопатах мы не заўважалі, што ён упрыгожвае вуліцу, якая, між іншым, лічыцца прыкладам горадабудаўніцтва Беларусі другой паловы XIX стагоддзя. І балкончыкі, адмыслова выкаваныя прыгожыя балкончыкі, вялі ў гэтай архітэктурнай сімфоніі не апошнюю скрыпку.

Два гады назад жыхароў з таго дома выселілі. Была прапанова аддаць будынак творчай моладзі — артысты, мастакі і архітэктары маглі б самі давесці яго да ладу. Рэстаўратары прасілі прыстасаваць дом пад праектныя майстэрні. Але аблвыканком вырашыў перадаць яго гасцінічнаму аб'яднанню пад атэль «Інтурыст». Дом паставілі на баланс жыллёва-камунальнай службы Кастрычніцкага райвыканкома, але яна не паклапацілася нават забіць дзверы і вокны, і будынак стаў фактычна грамадскай прыбіральняй. На другі і трэці паверхі можна прабрацца без усялякіх перашкод, што і зрабілі злодзеі.

Заўважым, што гэта — не першы выпадак, калі пакінутыя дамы разбураюцца. Такіх будынкаў у Віцебску шмат, асабліва ў раёне Задзвіння.

Летась работнікі абласнога краязнаўчага музея падлічылі свае фонды і высветлілі, што пасля рамонту музея ў экспазіцыі размесціцца максімум 12 тысяч адзінак захоўвання, а ўсяго іх 121 тысяча. Дырэктар музея Н. Сулецкая прапанавала гарвыканкому адкрыць у будынках па вуліцы Талстога дзесятак музеяў — народнага мастацтва, гісторыі горадабудаўніцтва, нумізматыкі, археалагічнай керамікі і іншыя. Кіраўніцтва гарвыканкома абышло прапанову маўчаннем. А што будынкі? Добрая палова пакінутых дамоў разбураецца, другая свавольна перабудоўваецца.

Калі дэкаратыўныя вырабы вясковых умельцаў зрабіліся прадметам даследавання, то самабытнае гарадское ўбранне наогул не вывучаецца. Віцебскае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры толькі-толькі распачало яго ўлік. І, на жаль, шмат чаго мы ўжо не далічымся.

...Здымалі неяк у цэнтры Віцебска мастацкі фільм. Кіношнікі пажадалі займець што-небудзь на памяць — і ў адной з арак дамоў па вуліцы Суворава знікла каваная чыгунная брама. Цяпер с асаблівай увагай гляджу карціны «Беларусьфільма» — раптам у якой стужцы мільгне віцебскі цуд, з якім мы так лёгка і пакорліва развіталіся.

Нядаўна прайшла рэканструкцыя вуліцы Суворава і прылягаючых да яе завулкаў. Арыгінальны балкон на рагу дома № 12/1 заменены пасрэдным вырабам з арматурнага дроту, а з балконаў на дамах № 8—10/2 зніклі галовы львоў, выкананыя ў тэхніцы мастацкага ліцця. Каміны ў дамах былі ўпрыгожаны кафляй. Як вядома, традыцыі вырабу віцебскай кафлі ідуць каранямі з сярэднявечча — за некалькі стагоддзяў мясцовыя майстры дасягнулі ў сваёй справе зайздроснай дасканаласці. Ва ўсякім разе, спецыялісты сцвярджаюць, што наша кафля не ўступае, а часам і пераўзыходзіць заходнееўрапейскія ўзоры. Ёй можна было б прысвяціць фотаальбом і, сапраўды, стварыць невялікі музей. Але ў час «рэканструкцыі» старажытныя каміны разбуралі ламамі — відаць, рамонтнікі не паспявалі да канца квартала. Гэтак жа бяздумна збілі ляпніну на адным з дамоў па вуліцы Крылова.

Не адсталі ад рамонтнікаў і кіраўнікі віцебскага ўчастка спецтрэста «Белпускналадка»: у доме № 39 па вул. Суворава, дзе месціцца гэтая арганізацыя, зрэзалі рашотчаты казырок над уваходам. Пры рэканструкцыі ратушы трэст № 9 не пажадаў узнавіць арнаменты балконаў на фасадзе помніка дойлідства XVIII стагоддзя. А гаспадары дома № 6 па вуліцы Чайкоўскага знялі дзверы, якія лічыліся класічным прыкладам ампірнага стылю. Прыгадваецца, як вясной 1984 года тагачасны галоўны архітэктар горада В. Андаралаў, апантана даказваючы неабходнасць зруйнавання дамоў па вул. Фрунзе, адмахнуўся ад пытання пра далейшы лёс балконных рашотак на гэтых прыгожых будынках — маўляў, не да дробязей...

Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што сучасныя будынкі гэткія самотныя і безаблічныя? Іх фасады пазбаўлены якога-небудзь дэкору і мастацкага ўбрання, калі не браць у разлік лічбы года будаўніцтва, якія выкладаюцца цэглай пад дахамі на самых прыкметных месцах. Праўда, на вуліцы Е. Зяньковай узвялі дом па арыгінальным праекце. Побач — стары будынак са своеасаблівымі ажурнымі балкончыкамі. Чаму б аўтарам праекта не выкарыстаць элементы стылізацыі старадаўніх узораў у афармленні сучасных лоджый? Але пераклічка эпох не прагучала — балконы новага дома зрабілі з нейкіх шэрых шчытоў.

Вельмі добра, што Віцебск увайшоў у зону замежнага турызму: хай прыязджаюць да нас чэхі і французы, балгары і японцы — мы з радасцю пакажам ім усё лепшае з таго, што маем. Толькі вось ці шмат захавалася ў Віцебску таго, чым можна шчыра зацікавіцца? Мы і самі не заўважаем, як зрываем з калісьці прыгожага горада яго вытанчанае ўбранне і апранаем шэрую сярмягу.

Затое ўсё больш шыкоўнымі робяцца некаторыя асабнякі на прыгарадных участках — менавіта тут можна ўбачыць старыя рашоткі балконаў, разныя дзверы. І ўладальнік падобнага «маёнтка» ў адказ на захапленне гасцей карункамі раскошных чыгунных веснічак з годнасцю запраўскага гіда заўважыць: «Упрыгожвалі былую Губернатарскую вуліцу. Пачатак стагоддзя, між іншым. Не нашага — дзевятнаццатага».

Цунамі мяшчанскага прэстыжу захліснула не толькі садовыя ўчасткі, але і... могілкі. Пампезныя помнікі, прастора вакол якіх выкладзена кафляй, прызначанай для санвузлоў — гэта, у рэшце рэшт справа густу. Але калі агароджай апошняга прыстанка служыць рашотка балкона, месца якой у музейнай экспазіцыі, — не ведаю, як у вас, а ў мяне ўзнікаюць сумненні ў шчырасці любові родзічаў да памёршага.

Ну, а балкончыкі з дома, што па вуліцы Талстога? Не ведаю, раніцой тое было, а можа, і падвечар (дарэчы, і ў міліцыі пра гэта не ведаюць), калі рашоткі спакойна выбілі з гнёздаў і вынеслі ажурнае ліццё па напалову разбуранай лесвіцы альбо, не выключана, проста скінулі на асфальт. Месца тут не шматлюднае, хаця і ў самым цэнтры горада, але наўрад ці за гадзіну-паўтары ніхто не прайшоў па суседнім Пушкінскім мосце. Пэўна, былі тут людзі, бачылі, як унікальныя рашоткі грузілі ў машыну. Бачылі, але не пацікавіліся. І не перашкодзілі.

А ведаеце, нічога дзіўнага ў гэтым няма. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў помнікі архітэктуры ў Віцебску руйнавалі адзін за адным — а вось прыкладаў рэстаўрацыі віцябчане не надта прыгадваюць. Тры гады назад А. Ганчароў у артыкуле «Выбух» («ЛіМ» за 13 красавіка 1984 г.) расказаў аб знішчэнні дамоў на плошчы Свабоды, якія былі кампазіцыйным ядром забудовы цэнтра. На тую лімаўскую публікацыю гарадскія ўлады адрэагавалі тым, што знеслі ўвесь левы бок вуліцы Янкі Купалы, а потым будынкі на вул. Савецкай. Аўтадафе над спадчынай на гэтым не скончылася: зусім нядаўна разбураны помнікі архітэктуры пачатку XX стагоддзя — дом № 21 па вуліцы Чэхава і дом № 4 па вуліцы Даватара. Вось ужо шосты год па прычыне рамонту, які зацягнуўся, не працуе краязнаўчы музей, а яго філіял, былыя камеры СД, дзе закатаваны савецкія патрыёты, залівае вада, і развітальныя словы вязняў на сценах камер раз'ела вільгаць. Аб гэтым, таксама ў «ЛіМе» за 20 сакавіка гэтага года, пісаў М. Замскі, але нічога не змянілася. Разбурэнне пагражае і раскопу XIV стагоддзя.

Прозвішчы віноўнікаў руйнаванняў і неахайных адносін да культурнага здабытку народа неаднаразова называліся ў рэспубліканскім друку, але ніхто з іх не панёс ніякай адказнасці перад законам. І калі кіраўнікі горада беспакарана зносяць цэлыя кварталы, што ж такога, калі радавы віцябчанін сцягне прыгожую рашотачку альбо даўбане ломікам па старадаўнім каміне?..

Ці такія ўжо «безгаспадарныя» пакінутыя будынкі? Так, Кастрычніцкаму райвыканкому мала справы да аварыйнага дома № 3 па той жа вуліцы Талстога, а Чыгуначны райвыканком упарта не заўважае, як разбураецца дом № 13 па вуліцы Кастрычніцкай. Але няўжо, як у той казцы пра чароўную дудачку, пакінулі горад усе трыста пяцьдзесят тысяч яго жыхароў? Ці не абавязак гэта гараджан — клапаціцца аб уласнай мінуўшчыне?

Наша ўласная абыякавасць ды яшчэ недасведчанасць аб сапраўднай вартасці культурнай спадчыны і з'яўляецца прычынай таго, што Віцебск губляе непаўторнасць.

І ўсё ж армія актыўных абаронцаў даўніны расце — толькі на расчыстцы ад смецця помніка архітэктуры XVIII—XIX стст. Пакроўскай царквы добраахвотна працавалі дзве з паловай сотні гараджан. Крыўдна, што іх энтузіязм вельмі часта сутыкаецца з чыноўным раўнадушшам. Адзін з кіраўнікоў горада — сакратар гаркома партыі Ларыса Міхайлаўна Чупахіна запытала: а ці не інспіраваны эксцэс з балкончыкамі самімі змагарамі за даўніну, каб потым узняць больш шуму? Арыгінальны ход думкі. Відаць, таварыш лічыць, што мараль прыстасаванцаў — кажы адно, рабі супрацьлеглае — з'яўляецца нормай паводзін для ўсіх. Вымушаны заспакоіць: эксцэс не інспіраваны (фота балкона таксама зроблена не злодзеямі, а работнікамі краязнаўчага музея). Падобныя абвінавачванні для актывістаў аховы помнікаў гісторыі і культуры — не ў навіну. Прыводзіць у роспач думка пра тое, што па зберажэнні спадчыны ў Віцебску робіцца да крыўднага мала, але каб не намаганні гэтых самаадданых людзей, дык, хто ведае, ці не замацавалася б канчаткова абыякавасць у нашых душах?

...Прыгадалася леташняя гутарка з Аляксеем Дударавым. Ён сказаў тады, што з чалавека, на вачах якога разбураюцца помнікі дойлідства, не атрымаецца сапраўднага грамадзяніна: ён таксама будзе руйнаваць.

Балкончыкі знялі на вачах у віцябчан.

**Сяргей НАВУМЧЫК.**

г. Віцебск.

# НЯЗГАСНАЕ СВЯТЛО КАСТРЫЧНІКА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).

бочa-сялянскай інспекцыі. Сярод практычных крокаў па выкараненню бюракратызму асаблівае значэнне мае спрашчэнне дзяржаўнага апарату, паляпшэнне яго пад рабоча-сялянскім кантролем, перавод часткі чыноўнікаў на прадукцыйную працу, шырокі ўдзел у кіраванні саміх працоўных.

І ўсё ж мы павінны помніць, што, кляймуючы бюракратызм, У. І. Ленін гаварыў і іншае: «Няхай наш дзяржаўны апарат вельмі дрэнны, але ўсё-такі ён створаны, найвялікшае гістарычнае вынаходства зроблена...»

Цяжка пераацаніць важнасць і актуальнасць гэтых вывадаў ва ўмовах цяперашняй перабудовы, калі партыя, адшукваючы шляхі стварэння на сацыялістычнай аснове больш магутных, чым пры капіталізме, стымулаў эканамічнага, навукова-тэхнічнага і сацыяльнага прагрэсу, развіваючы інтарэсы працоўных як гаспадароў краіны, зноў звярнулася да ленінскай пастаноўкі пытання аб **максімуме дэмакратызму сацыялістычнага ладу,** які забяспечвае чалавеку працы становішча сапраўднага гаспадара і на сваім рабочым месцы, і ў калектыве, і ў грамадстве ў цэлым. Мы вымушаны канстатаваць, што пасля смерці У. І. Леніна не ўдалося ў поўнай меры, як гэта задумвалася, развіць далей дэмакратычныя традыцыі Кастрычніка, ленінскія парады належным чынам не ўлічылі.

У выніку цэлага рада прычын, сярод якіх на першае месца трэба паставіць агульную эканамічную адсталасць краіны, націск дробнабуржуазнай стыхіі, адзінокасць сацыялістычнай дзяржавы ў варожым капіталістычным акружэнні, якое пастаянна пагражала ўзброенай інтэрвенцыяй і, нарэшце, развязала яе, былі дапушчаны разбуханне дзяржаўнага апарату да крытычнай мяжы, адрыў яго ад выбарных органаў улады, ігнараванне патрабаванняў падсправаздачнасці, выбарнасці і змяняльнасці ўсіх службовых асоб, фармалізацыя дэмакратычных норм дзяржаўнага і партыйнага жыцця, звужэнне публічнасці і г. д. Трэба мець таксама на ўвазе, што культ асобы, які нанёс велізарную шкоду сацыялізму, не толькі насаджаўся зверху, але і шмат у чым успрымаўся знізу, адлюстроўваючы феномен пэўнага ўзроўню палітычнай культуры, асаблівасцей палітычнай свядомасці таго часу, а таксама недастатковасці да 1917 года дэмакратычных традыцый у масах насельніцтва.

Гаспадарчы разлік як ядро эканамічнай рэформы і дэмакратызацыя — вось, бадай, двухадзіная лінія перабудовы, тое асноўнае звяно, узяўшыся за якое партыя актывізуе чалавечы фактар, узнімае масы на рэвалюцыйнае стварэнне новай якасці савецкага сацыялістычнага грамадства. Да гэтага трэба дадаць развіццё **кааперацыі** ў яе дакладным, ленінскім, свабодным ад аднабаковасці і скажэнняў, разуменні. У палітычным лексіконе пачатку 20-х гадоў, калі на базе новай эканамічнай палітыкі адбывалася, гаворачы словамі У. І. Леніна, «карэнная змена ўсяго пункту гледжання нашага на сацыялізм», кааперацыя, у якой **«сапраўды ўдзельнічаюць сапраўдныя масы насельніцтва»,** разглядалася як неабходная ўмова пабудовы поўнага сацыялістычнага грамадства. Сам сацыялізм, заснаваны на грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці, палітычнай уладзе рабочага класа, які ўстанавіў трывалы саюз з кіруемым ім сялянствам, трактаваўся як лад цывілізаваных кааператараў.

Пасля красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС, асабліва пасля XXVII з'езда партыі, у ходзе ажыццяўляемых пераўтварэнняў закладзены Кастрычнікам, У. І. Леніным асновы і прынцыпы Савецкай улады як бы набываюць сваю першапачатковую сутнасць, рашуча ачышчаючы ад бюракратычных, суб'ектывісцка - валюнтарысцкіх наслаенняў і нарастаў, ад дэфармацыі іх сацыялістычнай прыроды, становяцца нязменнай нормай жыцця ўсюды і ва ўсім. **Рэарганізацыя** дзейнасці ўсіх без выключэння дэмакратычных інстытутаў савецкага грамадства, асабліва працоўных калектываў, з тым, каб яны пастаянна і мэтанакіравана рабілі ўплыў на становішча спраў, датычыцца гэта планавання вытворчасці ці арганізацыі працы, размеркавання матэрыяльных і іншых даброт, выхавання, **перавод** у плоскасць практыкі ленінскай ідэі аб тым, што масы павінны мець права выбіраць сабе адказных кіраўнікоў, змяняць іх, ведаць і правяраць іх дзейнасць, **удасканальванне** выбарчай сістэмы, якая, як і ўсе палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя інстытуты грамадства, не можа знаходзіцца ў застылым стане, быць убаку ад працэсаў абнаўлення, што паглыбляюцца, **ператварэнне** ў безумоўны закон сацыялістычнага ладу жыцця галоснасці, крытыкі і самакрытыкі, адзінства свабоды і дысцыпліны, самастойнасці, правоў і абавязкаў, свабоднае **спаборніцтва** розумаў і талентаў — усё гэта выступае гарантыяй паспяховага вырашэння задач рэвалюцыйнага абнаўлення нашага грамадства. **Больш дэмакратыі, — значыць, больш сацыялізму** — гэта фармулёўка Звароту партыі, якая ўзначаліла перабудову, да савецкага народа ў сувязі з 70-годдзем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі дакладна выражае сутнасць намечанага і паслядоўна праводзімага курсу.

●

Па сваёй глыбіннай рэвалюцыйнай сутнасці, маштабнасці планаў, гуманістычнай накіраванасці праводзімая ў савецкім грамадстве перабудова з'яўляецца прамым працягам вялікіх здзяйсненняў, пачатых бальшавіцкай партыяй у кастрычніку 1917 года. Паколькі ажыццяўляемыя пераўтварэнні адбываюцца ў рамках сацыялістычнай фазы, унутры сацыялізму, на яго ўласнай аснове, яна выступае як рэвалюцыя асобага роду. Гаворка ідзе аб паглыбленні сацыялістычнага народаўладдзя, аб наданні сацыялізму самых сучасных форм грамадскай арганізацыі, аб найбольш поўным, у адпаведнасці з сутнасцю і духам Кастрычніка, раскрыцці яго гуманістычнага характару.

Накоплены Камуністычнай партыяй, савецкім народам велізарны вопыт карэннай перабудовы грамадства ўвайшоў у гісторыю як заваёва сусветнага сацыялізму. І, як гаварыў у свой час У. І. Ленін, ніякая сіла ў свеце, колькі б зла, бедстваў і пакут яна ні магла прынесці яшчэ мільёнам і сотням мільёнаў людзей, асноўных заваёў нашай рэвалюцыі не возьме назад, бо гэта ўжо цяпер не «нашы», а сусветна-гістарычныя заваёвы».

**ВЫСТАЎКІ**

# АДНАДУМЦЫ

ВЫСТАЎКА — радасць, выстаўка — свята... Рэдка яны былі ў апошнія гады. Глядач адвык ад іх, прыгнечаны грандыёзным размахам іншых выстаўкомаў, якія, здавалася, імкнуліся абысці Казьму Пруткова і ўсё-такі абняць у адной экспазіцыі неабдымнае. На выстаўках было, мабыць, усё: дзесяткі імёнаў, сотні твораў, тэмы, сугучныя тагачасным газетным перадавіцам, але, на жаль... — далёка не заўсёды была шчырасць. Так — было, і нам давядзецца нямала зрабіць, каб вярнуць гледачоў у пустыя выставачныя залы, каб абвергнуць горкае сцвярджэнне сацыёлагаў: выяўленчае мастацтва займае зараз апошняе месца ў шэрагу духоўных запатрабаванняў савецкіх людзей.

Перамены, хочацца спадзявацца, усё-такі наступяць. Ва ўсякім разе, групавая выстаўка, што праходзіла ў верасні ў мінскім Палацы мастацтваў, стала прыкметнай падзеяй нашага мастацкага жыцця. Сваё мастацтва паказалі Сяргей Волкаў, Яўген Жылін, Леанід Марчанка, Уладзімір Пашчасцаў і Мікалай Рыжыкаў — мастакі, якіх сёння называюць сярэднім пакаленнем беларускіх графікаў. Старанна падабраная, «нефармальная» экспазіцыя пераконвала: кожны з прадстаўленых майстроў — асоба глыбока індывідуальная, па-творчы сталая. А разам яны — аднадумцы, аб'яднаныя не толькі падабенствам лёсаў, але і агульным, сур'ёзным стаўленнем да жыцця, да творчасці.

Галоўнае, што збліжае гэтых непадобных мастакоў, — пачуццё сучаснасці, дачыненне да ўсяго, што адбываецца навокал. Выяўляецца яно, вядома, па-рознаму — ад вострых, часта гратэскных вобразаў С. Волкава да камерных, глыбока лірычных твораў Я. Жыліна і Л. Марчанкі.

Нельга не заўважыць: многія з прадстаўленых на выстаўцы работ узніклі ў выніку творчых камандзіровак, паездак і падарожжаў. І не так ужо важна, аказваецца, дзе менавіта пабываў мастак — у казачнай Маўрытаніі, далёкім Алжыры, за суровым Палярным кругам, на БАМе ці зусім недалёка — на Палессі або ў Раўбічах. Важна другое — што ён вынес з гэтых паездак, наколькі ўзбагацілі яны яго бачанне свету.



С. ВОЛКАЎ. Агрэсія.



Я. ЖЫЛІН. Зіма. Сухарукія.



Л. МАРЧАНКА. Палярны круг.



У. ПАШЧАСЦЕЎ. Партрэт бацькі.



М. РЫЖЫКАЎ. Тэрэза.

Пра тое, як успрымае вока мастака новае, лепш за ўсё, відаць, сведчаць работы Мікалая Рыжыкава. Вельмі многія з прадстаўленых на выстаўцы яго графічных лістоў абавязаны сваім нараджэннем менавіта дарожным уражанням. Радуе, што шматлікія работы серый «Па Чэхаславакіі» (1978—1979, 1982—1985 гг.); «Маўрытанія» (1981); «Арменія» (1983), «Байкал» (1984) у большасці выпадкаў пазбаўлены павярхоўнай рэпартажнасці. Ніякія, часам самыя экзатычныя рэаліі краіны не могуць па сваім значэнні параўнацца ў работах графіка з гарачай цікавасцю да яе людзей. Таму, пэўна, такія па-чалавечы блізкія нам яго «Туарэг у чалме», «Маўрытанец», «Вінароб», такая прываблівая ў сваёй дзявочай прыгажосці «Тэрэза». Гэтыя і іншыя творы М. Рыжыкава — афорты, акварэлі, літаграфіі, малюнкі алоўкам — выкананыя шырока і тэмпераментна.

Цікавая асаблівасць выстаўкі: паказаўшы творчасць кожнага з удзельнікаў падрабязна, яна не толькі пацвердзіла наша ўяўленне пра іх (а кожны з мастакоў, пагадзіцеся, ужо заняў пэўнае месца ў сучасным мастацкім працэсе), але і адкрыла для вас нейкія новыя грані іх таленту.

Здавалася б, за Леанідам Марчанкам трывала замацавалася слава мастака-лірыка. Яго някідкія, пазбаўленыя знешніх эфектаў, жывапісныя па сутнасці сваёй лісты заўсёды патрабавалі ўдумлівай, засяроджанай увагі. І якія б тэмы ні займалі мастака — «Жанчыны Палесся», «Лета ў Залацінцы», «Мой край азёрны», «Горад Мінск», — ён захоўваў ціхую, давяральную інтанацыю ў размове з гледачом. Тым больш цікава было побач з такімі работамі ўбачыць серыю гравюр, аб'яднаных пад назвай «СССР — наша Радзіма» (1982—1983). Суровая паўночная прырода, нялёгкае працоўнае жыццё палярных маракоў натхнілі мастака на стварэнне лістоў драматычнага гучання. Лаканічныя, падкрэслена графічныя, гэтыя работы прывабілі сваім прафесіяналізмам, дакладна знойдзенымі суадносінамі агульнага і прыватнага, удала абыгранымі дэталямі. Яны, здаецца, адкрываюць перад Л. Марчанкам новыя творчыя далягляды.

Досыць разнапланавым майстрам прадстаў на выстаўцы і Сяргей Волкаў. Актыўная жыццёвая пазіцыя мастака, яго яркі публіцыстычны талент знайшлі ўвасабленне і ў серыі «Аблічча свабоднага свету» (1985), і ў сатырычных плакатах, і ў станковых лістах, прысвечаных жыццю Савецкай Арміі. Амаль усе прадстаўленыя работы маюць ярка выяўленую фабулу. Валодаючы вострым вокам, С. Волкаў бліскуча рэалізуе свае здольнасці апавядальніка. Добра глядзіцца ў экспазіцыі і серыя сяброўскіх шаржаў на беларускіх пісьменнікаў, і зусім інакшая па настроі серыя «Воіны-інтэрнацыяналісты», дзе кожны ліст падобны на маленькую, псіхалагічна цэласную навелу.

Не былі расчараваны і прыхільнікі таленту Уладзіміра Пашчасцава. Глыбінёй задумы, стараннасцю выканання прываблівалі гледачоў афорты майстра «За Добрыцай-рэчкай», «Граніт. Мікашэвічы», «Рынак». Псіхалагічнай дакладнасцю запомніліся малюнкі «Партрэт маці», «Партрэт бацькі», «Лізавета», вынаходлівымі і вясёлымі падаліся ілюстрацыі да дзіцячых кніжак.

Яўген Жылін, вядомы галоўным чынам як мастак дзіцячай кнігі, на гэты раз прадставіў толькі свае пейзажы. Сабраныя разам, яны ўтварылі трапяткі, пранікнёна знаёмы свет роднай прыроды. Мастак любіць пераходныя імгненні ў жыцці лесу, зямлі і неба. Ён дэманструе багатыя магчымасці акварэлі — то празрыстай, пяшчотнай, то наадварот, насычанай па колеру, актыўнай, эмацыянальнай.

Так, яны сапраўды розныя, гэтыя мастакі, што сабраліся на сваю выстаўку пад адным дахам. Усе яны ўступілі ў пару сталасці і мастацкай, і чалавечай, але ва ўсіх іх яшчэ доўгія гады творчасці. Ісці наперад яны будуць, як і ішлі, па-рознаму, кожны — сваім шляхам.

**Алена ПІКУЛІК.**

## НАШ КАЛЯНДАР

Па сутнасці, гэта ўжо сталыя майстры, хоць, па звычцы, іх і дагэтуль *называюць «маладымі мастакамі»*. Прадстаўнікі пакалення, якое прыйшло ў мастацтва ў сярэдзіне 70-х гадоў, ужо маюць за плячыма значны творчы вопыт. Іх яднаюць агульныя прафесійныя праблемы, успаміны аб вучобе ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. А многіх — яшчэ і гады дзяцінства, праведзеныя пад дахам Рэспубліканскай школы-інтэрната. Гэты час амаль заўсёды прыгадваюць з цеплынёю: «А памятаеш, як у школе?..»

# АДЗІНАЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка — у Беларусі адзіная. Яна знаходзіцца ў Мінску на ціхай зялёнай вуліцы імя Андрэя Макаёнка. Ініцыятарам яе стварэння ў 1962 годзе быў Рыгор Раманавіч Шырма. Сёлета школа адзначае свой 25-гадовы юбілей.

Поруч з агульнаадукацыйнай праграмай сярэдняй *школы навучэнцы* штодзённа спасцігаюць законы музыкі і выяўленчага мастацтва. Ёсць у іх свае святы — канцэрты, прагляды, конкурсы, экскурсіі. Большасць выпускнікоў школы потым звязваюць сваё жыццё з прафесійным мастацтвам, часам дасягаюць выдатных поспехаў.

Так, першым сярод выпускнікоў *мастацкага аддзялення* школы ўступіў у Саюз мастакоў БССР вядомы сёння графік У. Савіч.

Таленавітым мастаком кнігі была і аднакласніца У. Савіча па школе, а потым аднакурсніца па тэатральна-мастацкім інстытуце Л. Палякова, жыццё якой (1952—1981 гг.), на вялікі жаль, абарвалася на самым узлёце. Сярод шэрагу па-майстэрску аформленых ёю кніг для дзяцей асаблівае прызнанне атрымалі ілюстрацыі кніжкі англійскіх загадак. Тыраж кнігі быў *амаль цалкам* закуплены Англіяй. За гэту работу мастачцы пасмяротна на Усесаюзным конкурсе «Мастацтва кнігі-82» быў прысуджаны Дыплом III ступені.

Паспяхова працуюць над дзіцячай ілюстрацыяй і выпускнікі школы наступных гадоў — графікі Я. Зельская, В. Мікіта, К. Шаранговіч.

*Прагай да авалодання жывапісным* майстэрствам вызначаліся выпускнікі школы 1972 г. В. Альшэўскі, А. Ксяндзоў, Ф. Янушкевіч, якія пасля паспяховага заканчэння тэатральна-мастацкага інстытута былі ў ліку першага выпуску Акадэмічнай майстэрні пры Саюзе мастакоў БССР у 1984 г. (кіраўнік М. Савіцкі). Іх «эстафету» працягвае зараз М. Гаўрыленка, што займаецца ў другім наборы майстэрні.

За кошт выхаванцаў школы шырыцца атрад беларускіх *мастакоў-монументалістаў*. Напрыклад, У. Крываблоцкі на працягу некалькіх гадоў працаваў над буйнамаштабным шматфігурным роспісам «У імя жыцця на зямлі» ў інтэр'еры Ушацкага музея народнай славы. За гэту працу ён быў узнагароджаны прэміяй ЛКСМБ.

Тэхніку разьбы на ляўкасе, характэрную для старажытнабеларускага *жывапісу, першым* сярод маладых мастакоў засвоіў і па-майстэрску выкарыстоўвае ў сваіх манументальных і станковых кампазіцыях В. Ціханаў. Яго самы значны манументальны твор (у сааўтарстве з аднакурснікам В. Барабанцавым) — фрэска «Горад юнацтва» ў актавай зале 61-й сярэдняй школы Мінска.

Заўсёды з вялікай павагай прыгадваюць у школе скульптара С. Гарбунову, лаўрэата прэміі ЛКСМБ 1984 г., аўтара выдатнага помніка беларускаму *гуманісту XVI ст. Сымону* Буднаму. Скульптар падарыла помнік Нясвіжу. Яе прыклад натхняе іншых выхаванцаў школы, якія імкнуцца ўжо дыпломнай інстытуцкай работай унесці ўклад у прапаганду гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Напрыклад, К. Маліноўскі выканаў помнік Пятру Мсціслаўцу, які неўзабаве будзе ўстаноўлены ў Мсціславе, родным горадзе асветніка. Дыпломная работа Г. Лойкі, выпускніка тэатральна-мастацкага інстытута 1986 г. — мемарыяльны знак Францыска Скарыны для фасада Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. В. Янушкевіч працуе над помнікам А. Міцкевічу для Навагрудка.

Ужо з першых год існавання мастацкага аддзялення школы (пачатак 60-х гг.) «творчы тонус» яго рабоце надалі першыя настаўнікі — С. Каткоў, А. Казак, М. Назарчук. Дзякуючы ініцыятыве Б. Лазарэвіча на аддзяленні пачалося навучанне юных скульптараў. Сваю творчую маладосць звязалі са школай і мастакі П. Свентахоўскі, М. Макаранка, Р. Дубар, *Л. Ізмайлава, Л. Шчамялёў*. Іх метады работы з выхаванцамі вызначаліся жывым, творчым падыходам. Вучні разам з настаўнікамі не стамляліся працаваць, авалодваць ведамі, хоць матэрыяльныя ўмовы ў першыя гады існавання школы не заўжды былі спрыяльнымі.

Вельмі ўдалымі былі камандзіроўкі «ў пошуку талентаў», калі мастакі з рукзакамі за плячамі дабіраліся да самых аддаленых вёсак у розных кутках Беларусі і там, на месцы, у любы час навучальнага года праводзілі «адборачныя экзамены», і такім чынам многія здольныя дзеці станавіліся вучнямі школы.

У школе праводзіліся выхаваўчыя мерапрыемствы, штомесячныя экскурсіі і выезды на эцюды, быў створаны драматычны гурток, а пад час летніх практык адбываўся нават своеасаблівы вясёлы рытуал — «пасвячэнне ў юныя мастакі». Запомніліся вучням вечары, прысвечаныя юбілеям М. Багдановіча, М. Чурлёніса, да якіх рыхтавалася ўся школа. Вучні *мелі магчымасць сустракацца з дзеячамі* культуры, убачыць на школьнай сцэне выступленне «Харошак». У гэтым заключалася высокае разуменне задач выхавання творчай моладзі — не толькі навучыць рамяству, даць навыкі прафесіяналізму, але адначасова прывіваць высокія грамадзянскія і чалавечыя якасці.

У пачатку сямідзесятых гадоў да школы быў дабудаваны новы мастацкі корпус са светлымі і прасторнымі майстэрнямі, якім могуць пазайздросціць і студэнты інстытута. *Прыйшло* новае пакаленне настаўнікаў. Разам з «ветэранамі» сталі працаваць В. Свентахоўская, Л. Давідзенка, Р. Батальёнак, С. Фядоранка, М. Валчок, У. Сулкоўскі, П. Шарыпа, В. Свістуноў, У. Слабодчыкаў, К. Цюрына, А. Панцюк, а таксама скульптары А. Фінскі і А. Баразельнікаў, графік Р. Сітніца — былыя выхаванцы школы.

Праца настаўнікаў прыносіць вялікі плён. Напрыклад, былы вучань В. Свентахоўскай В. Мікіта ўжо сам выкладае ў тэатральна-мастацкім інстытуце. С. Макуцэвіч і Т. Бембель, выхаванцы П. Шарыпы, вучацца ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна пры Акадэміі мастацтваў СССР, другі ягоны вучань — А. Пушкін, пасля выканання свайго інтэрнацыянальнага воінскага абавязку ў Афганістане працягвае сваю вучобу ў тэатральна-мастацкім інстытуце. І такія падставы для гонару ёсць у кожнага настаўніка творчай моладзі.

Але нельга не сказаць і пра іншае. Школа-інтэрнат была створана дзеля таго, каб даць магчымасць атрымаць пачатковую мастацкую адукацыю вясковым дзецям. Але сёння асноўны кантынгент навучэнцаў складаюць гараджане (дакладней, мінчане). Часта «ў глыбінцы» нават не ведаюць пра гэтую школу. Так з прычыны дрэнна пастаўленай інфармацыі ствараецца штучная заслона паміж вёскай і вышэйшай мастацкай адукацыяй. Бо, не маючы адпаведнай падрыхтоўкі, вясковец загадзя выключаны з барацьбы за месца ў інстытуце. Мабыць, варта вярнуцца да пачатковай задумы, зрабіць школу такой, якой яна бачылася яе стваральніку Р. Шырме — школа павінна апраўдваць сваю назву — «рэспубліканская».

Відаць, школа павінна выхоўваць не толькі будучых прафесійных мастакоў, але і спецыялістаў па народнай творчасці, якія пасля заканчэння школы маглі б вяртацца ў родныя мясціны і актыўна падымаць культуру на вёсцы, весці гурткі, студыі выяўленчага або дэкаратыўнага мастацтва. У гэтай сувязі неабходна ўвесці больш шырокую творчую арыентацыю ў праграму навучання, паглыбляць веды па культуры беларускага народа. Дзеля гэтага неабходна перавесці школу на беларускую мову навучання (па прыкладзе аналагічных школ у братніх рэспубліках). Па многіх пытаннях арганізацыі вучэбнага працэсу і ролі ў ім мастака-выкладчыка трэба арыентавацца на багаты і наватарскі вопыт такіх вядомых у краіне школ, як Ленінградская сярэдняя мастацкая школа імя Б. Іягансона, Маскоўская сярэдняя мастацкая школа. Усё лепшае, станоўчае, падказанае практыкай, павінна быць у вучэбнай праграме школы. Бо ўжо зараз яна працуе на будучыню.

Яўген ШУНЕЙКА,
выхавацель мастацкага аддзялення школы.

## ПРОЗА



Кастусь МАТУСЕВІЧ

# ЧОРНЫ ШЛЯХ

ГІСТАРЫЧНАЯ НАВЕЛА

ГІСТОРЫЯ сясцёр Русіноўскіх, сёння цалкам забытая, поўніла жахам сэрцы нашых далёкіх продкаў. Але было б дзіўна, калі б яна ўтрымалася жывым паданнем — амаль пяцьсот гадоў мінула з тае пары, як звекавалі свой век сёстры. За гэты немалы час адбылося на белым свеце і, зразумела, у нас на Беларусі, мноства трагічных падзей, некалькі з іх былі падобныя на канец свету. У крывавым іхнім святле выблеклі і зніклі з памяці колішнія мясцовыя драмы... Дык што нам, можа спытацца чытач, да забытых ценяў трох жанок, калі і пра трагічную даўніну і пра вялікія постаці ўласнай мінуўшчыны нашыя веды найчасцей абмежаваны дробнымі звесткамі, якія падае школьны падручнік. Якая нам карысць ведаць пра тых сясцёр?

Так, ніякай карысці, зусім аніякай, нічога выдатнага, ці, хоць бы, *значнага для гісторыі* сёстры Русіноўскія не зрабілі. Тым не менш, маецца падстава для цікавасці — *нараджала наша зямля* выдатных асветніц, ваяўніц, лекарак, былі ў кожным пакаленні і гераіні, і пакутніцы. і раптам — постаць супрацьлеглай палярнасці — разбойніца, істота, можна сказаць, з пэўным інфернальным адбіткам на душы. Але агульнае палатно народнага жыцця ствараецца не толькі святымі і героямі, ёсць на ім заўжды і чорны колер. Ну і яшчэ адна заўвага: горы архіваў былі знішчаны пад час шведскай, французскай, германскай навалы, не злічыць рукапісаў і кніг, што кінулі ў агонь, выпальваючы непрымальную думку, разнамасныя іншаверцы і іншадумцы, а судовыя нататкі пра Русіноўскіх ацалелі. Бясспрэчна, няма ў гэтай ацалеласці сэнсу, проста пэўнай кіпе папер пашанцавала, выпадак, не больш за тое — куды часцей вартае згарае, нявартае ўнікае ад агню! І ўсё ж гэта — дакументальная вестачка з небыцця: было, жылі сёстры, хадзіла пра іх шырокая пагалоска сярод тоечасовых людзей. Чаму ж на гэты выцвілы запіс з пачатку шаснаццатага стагоддзя не зірнуць?

●

Пра бацьку, пана Русіноўскага, занатавана няшмат, пра маці наогул няма ніякай даведкі. Дакладна вядома наступнае: двор Русіноўскіх стаяў вёрст за дваццаць ад Ашмян, калі кіравацца на Вільню, але не прама пры бальшаку, а праваруч, у гадзіне хады па прасёлку. Старэйшую дачку Русіноўскіх звалі Марта; шаснаццаці год пабралася яна па бацькоўскай волі з нейкім Матушам. Суседам. Муж Марты слыў за чалавека добрага, наколькі дазваляла дабрыню пярэдадне шаснаццатага стагоддзя, услаўленае болей чым добрымі справамі, выбухам злачыннасці. Так густа напладзілася тады рабаўнікоў, што ехаць па гасцінцы ў прыцемках адважваўся толькі той, каму абрыдла жыццё на гэтым свеце. Нямала ліхіх галоў праламіў шастапёрам пан Матуш, а калі прыдарожны злодзей трапляў да яго жыўцом, дык не марудзячы, без сумніваў Матушавы парабкі прывязвалі грэшніка за ногі да дзвюх бяроз. Але жонку Матуш ніколі і пальцам не крануў, хіба толькі ў добрым падпітку. За чатыры гады Марта аддзячыла мужу тройцай сыноў, рассыцела, узяла пад руплівае вока аруды і каморы, і дваравыя дзеўкі хораша навучыліся спяваць, седзячы за кудзеляю, як прыбітыя да лаўкі цвікамі, доўгія зімовыя вечары. Гэтыя простыя радасці ды святочныя выезды на імшу цалкам Марту задавальнялі.

У хуткім часе Русіноўскі прыгледзеў і сярэдняй дачцэ Марылі прыстойнага чалавека. Жаніх прыслаў censatoў, потым прыехаў з бацькамі, добра былі запітыя заручыны, ужо маці пачала збіраць у куфар пасаг, ужо прызначылі дзень вяселля, як напярэдадні яго Марыля знікла. Дарэмна гукалі яе па лесе, дарэмна шукалі на балоце — ніякага следу. Самыя змрочныя думкі катавалі бацькам сэрца; маці ледзь не страціла розум, бацька ссівеў. Нарэшце праз месяц сабраліся ў касцёл на памінанне — і вось у гэты час прыйшла вестка, якая ўразіла сям'ю больш, чым таямнічае знікненне: дачка жывая, сядзіць паслушніцай у віленскім кляштары дамініканак. Сабраўшы абоз, бацькі памчаліся ў сталіцу, убіліся ў кляштар, знайшлі Марылю, крычалі на яе, бацька і рукой прыклаўся, потым, стоячы перад дачкой на каленях, малілі вярнуцца — марна. Марыля адказвала, што вышэй за яе сілы цярпець катаванне сямейным жыццём і што шчасце яна адшукала ў прысвячэнні свайго сэрца Ісусу Хрысту — адзінаму высакароднаму жаніху на свеце.

Разам з бацькамі поўзала па падлозе і малодшая дачка Ядвіга, якая таксама маліла сястру і цалавала ёй ногі, просячы літасці да маці. Але Марыля глядзела на бацькоў і сястру з тым бездапаможным спачуваннем, з якім глядзяць на невідушчых.

Разбітыя вар'яцтвам дачкі, Русіноўскія вярнуліся на свой двор. Пра Марылю не гаварылі, нібы выкраслілі яе з жыцця, але на ўсіх бацькоўскіх размовах, снах, нават позірках на дзверы, ляжаў цень затоенай тугі. Наступным летам — а быў гэта год 1497 — адбыўся вялікі наезд крымчакаў, некалькі іхніх загонаў кіраваліся аж на Ліду. Усю шляхту прызвалі на каня. Рушыла ў паход і ашмянская харугва, у яе шэрагах быў пан Русіноўскі. Пад Дзятлавам татар спынілі, але немалым коштам; у брацкую магілу над Моўчаддзю паклалі сярод тысячы палеглых і Русіноўскага. Сябры прывялі да хаты ягонага каня з прыторочанымі да сядла мячом і шлемам. Хутка і Русіноўская, не сцярпеўшы журбы, адбыла на той свет да мужа.

Гаспадыняй двара, прызначанага пад апеку Матушу, засталася Ядвіга. Сіраце ішоў васемнаццаты год. Залатыя валасы, блакітныя вочы, вабная постаць далёка ўславілі Ядвігу. На мужчынскае вока ўяўлялася яна жывым анёлам, дасланым на Ашмяншчыну праз боскі клопат. Склаўся нават пагалосак, што ва ўсім Панямонні няма больш прыгожай дзяўчыны. З гэтай падставы, як толькі мінуў год жалобы па маці, да варот Русіноўскай пацягнуліся чарадой сваты. Ядвіга ўсім адмаўляла. «Што за двор без рыцара? — злаваў на сваячку Матуш. — Хто табе дзіцё зробіць? Хто абароніць, калі злодзеі?» — «Сама абаранюся!» — упэўнена адказвала Ядвіга. Але пан Матуш узмацняў ціск і ў рэшце рэшт перамог. Ядвіга, якой абрыдлі апякун і залежнасць, пабралася з бяздзетным удаўцом Хадзевічам. Той любіў выпіць, а, добра выпіўшы, любіў пабіцца. Пабыла яна за ім два гады, як у пекле. Нечаканы выпадак стаў для яе паратункам: аднойчы, калі Хадзевіч дужа п'яны вяртаўся ад суседа, нехта забіў яго ўдарам чакана ў скронь. Пахаваўшы мужа, Ядвіга зноў пасялілася ў родных Русіновічах.

Але няма на гэтым свеце пакою. У хуткім часе з'явілася ў Ашмянскім павеце новая шайка. Хапала тут злодзеяў і да яе, і прыблудных, і мясцовых, бо кожны трэці гаспадар лічыў за абавязак падрапаць на бальшаку праезджага ці прахожага чалавека, хоць сярмягу з яго зняць, калі не меў грошай. Але новая зграя рознілася ад ранейшых рабаўнікоў звярынай жорсткасцю. Лічаны месяц абыходзіўся цяпер без крывавага злачынства. Пра літасць збоі не ведалі, аднолькава вешалі на дуб шаноўнага пана і згаладалага лірніка, старую і дзіцё. Процьма крукоў пасялілася ўздоўж гасцінца на Вільню, заўжды маючы пачастунак. Праз два гады стары шлях набыў новую назву — Разбойнічы ці

Чорны, апошнюю — з-за тых хмар, у якія збівалася варанчё. Шляхта зачынілася па дварах, лютыя псы ўзняліся коштам да вартасці каровы. Але і сядзіба з тузінам злых, як чэрці, сабак не давала надзейнага ратунку. Калі збоі рабавалі абраны двор, усе яго прыбывальнікі пазбауляліся жыцця, быццам смяротныя пакуты людзей прыносілі злыдням асалоду. Не было ніводнага чалавека, якому пашчасціла б вырвацца ад злачынцаў. Зімой жыццё трохі спакайнела, але як сыходзіў снег, рунела атава, гайня зноў абвяшчала пра сябе змрочнымі забойствамі.

Неадступны, наскрозь працінаючы душу жах — вось галоўнае пачуццё, з якім ашмянскае насельніцтва пражыло з 1500 па 1507 год. У Вільню да яго міласці вялікага князя слязлівым ручаём цяклі скаргі і просьбы абараніць. Таямнічасць шайкі нарадзіла прымхлівыя чуткі пра зданяў, вісельнікаў, ваўкалакаў; пачутыя нанач, гэтыя ашмянскія паданні пазбаўлялі сну і мужнага чалавека. Князь Аляксандр вызначыў узнагароду за вынішчэнне збояў, паступова яна ўзнялася да казачнага памеру — тысяча залатых. Няшала ахвотнікаў адхапіць паўпуда золата, пагойсаўшы па дарогах павета, стала ахвярамі шайкі, якая ўтаймавала іх пяньковай пяцелькай. Дайшло да нахабнага выкліка: злодзеі не збаяліся забіць старога ксяндза з ашмянскай плябаніі, які на дрогкіх колах цягнуўся ў Вільню з нейкай справай да біскупа. Раз'юшаны біскуп у нядзельным казанні абвінаваціў уладу ў ляноце. Князь Аляксандр, страціўшы цярплівасць, загадаў знайсці і знішчыць шайку мінскаму суддзі Ваньковічу.

Вестка аб прызначэнні Ваньковіча велікакняжацкім камісарам абудзіла сярод жыхарства светлыя надзеі. Ваньковіч слыў за непадкупнага ўрадніка, што само па сабе прымушала да павагі, але, больш важкае, — не ведалі злачынства, якое б засталося непакараным, калі выкрыць яго браўся пан Ваньковіч. Хутка ён з'явіўся на ашмянскіх прасёлках з аршакам дужых малайцоў, распачаў аб'язджаць двары, збіраючы звесткі пра шайку. Не абмінуў Ваньковіч і двара Русіноўскай. На пачатку іхнія адносіны не пераходзілі мяжы ветлівасці, бо Ваньковіч меў сям'ю. Але калі ягоная жонка памерла, а здарылася гэта на другі ці на трэці год камісарства, суддзя зірнуў на Ядвігу вокам вольнага птаха і закахаўся. Як і першаму мужу Ядвігі, Ваньковічу перайшло за сорак, так што захапіўшыя яго пачуцці мелі на мэце шлюб. Быў ён радавіты, багаты, славуты, удачлівы — багата падстаў, каб разлічваць на шчасце з маладой прыгожай кабетай.

Што тычыцца шайкі, дык тут справа ў лепшы бок не рухалася. Паказанняў пацярпеўшых не было, бо мёртвыя не гавораць, і лепшы следчы, не маючы хоць якой пэўнай зачэпкі, хоць малога следу, блукаў быццам сляпы паміж трох соснаў. Насіўся Ваньковіч са сваёй паўсотняй па павеце — шайка затойвалася, адбываў — ранкам жа чыйнебудзь двор стаяў з расчыненай брамай у той палохаючай немаце, калі ад гаспадара да сабакі ўсе ляжаць з расколатымі галовамі. Нязменная слава суддзі пахіснулася, пачалі гаварыць, што сам ён хутка-няхутка пападзецца злодзеям і завісне на дубовых арэлях.

Праўда, трэба сказаць, што займаўся Ваньковіч вышукам не ўвесь час. Тры гады запар хадзіў ён у летнія месяцы з мінскай харугвай супраць татар, а ўвосень 1506 года біўся з імі пад Клецкам, дзе выратавалі саракатысячны палон, а дваццаць тысяч крымчакаў спластавалі на пагорках і прасёлках ад клецкага замка да вытокаў Лані. Але якраз у жніўні і верасні, калі войска пад камандаваннем князя Глінскага секла татар і засталіся ашмянскія двары без гаспадароў, калі памёр князь Аляксандр і панавала роспач, шайка выразала дзве сям'і. Толькі магілы сваіх жонак і дзетак убачылі прыйшоўшыя з вайны пераможцы. Адзін з іх, сталага веку, узяў маладую дзеўку і аднавіў жыццё, другі, маладзейшы, не вытрываў страты і ўдавіўся. Вось разам з тым, што ўдавіўся, лік ахвяр гайні перайшоў за тры з паловай сотні. Так што Ваньковіч заўжды адчуваў неспакой, і ягонае жаданне расплюшчыць шайку ўзмацнялася жахам за Ядвігу. Хоць яе двор быў абнесены высокім частаколам, хоць уздоўж яго і ўначы, і днём выгульвалася зграя ваўкарэзаў, хоць падвоіла Ядвіга колькасць сваіх парабкаў — ды ўсё магло здарыцца, ніхто не загавораны ад вар'яцкай прагі крыві. Ваньковіч часта прыязджаў да Ядвігі; калі яна запалілася наведаць сястру, ён ахоўваў яе на небяспечным віленскім бальшаку. Разам зайшлі яны і ў кляштар, дзе Марыля абрала сабе клопат шпіталёвай сядзелкі. «Хіба і я прыйду да цябе ў кляштар», — сказала Ядвіга сястры. Тая, зірнуўшы на Ваньковіча, стала даводзіць, што і ў людскім жыцці можна споўніць хрысціянскі абавязак. «Можна, — сумна пагадзілася Ядвіга, — але ў нас так зараз склалася, што ўвечары не ведаеш, ці прачнешся жывы». Там жа ў Вільні Ваньковіч прасіў Ядвігу пайсці за яго, і яна дала згоду, абумовіўшы вяселле на дзень святога Марціна, інакш кажучы, на другі тыдзень лістапада.

Але не меўся суддзя вельмі парадавацца. Стала вядома, што яго папікаў князь Сігізмунд і што на князевы дакоры ён адказаў ганарлівым абяцаннем: «Ці я сплюшчу шайку, ці вось гэтай шабляй перарэжу сабе жылы!» «Справядліва! — жорстка адзначыў князь і не ўтрымаўся ўдакладніць: — Калі?» «Не пазней дня анёла-захавальніка!» — адказаў суддзя. Па календары прыпадае гэтая дата на другі дзень кастрычніка. А размова, у якой прагучала слова гонару, адбылася ў пачатку ліпеня. А святы Марцін, як мы казалі, святкуецца праз месяц пасля дня анёла-захавальніка. Так што, каб увесці ў свой дом каханую, суддзі Ваньковічу было неабходна застацца жывым, апошняе ж выключна залежала ад следчага поспеху. Між тым час няўмольна ляцеў да конавай адзнакі — ужо лета падбіралася к канцу, толькі верасень заставаўся Ваньковічу для ратавання гонару, жыцця, шчасця. Але як зрабіць за месяц тое, што не далося зрабіць за некалькі год?..

І ствараючы свайму ворагу найлепшыя ўмовы для самагубства,. шайка сцішылася. Засталося збоям перачакаць некалькі тыдняў, а ўжо пасля дня анёла-захавальніка, калі праўдзе Ваньковіч па горле вастрыём шаблі, узяць сваё з лішкам. Пан Ваньковіч зміраўся, як тады казалі, з паражкай і ад'ехаў у Вільню. Перад тым, аднак, ён наведаў Ядвігу і аслабаніў яе ад шлюбнай змовы. Ядвіга ўмаляла яго выракчыся сваёй легкадумнай клятвы вялікаму князю. «Немагчыма, — сказаў Ваньковіч. — Жыццё, каханне, сям'я — вялікі падарунак ад пана бога, але без гонару нічога яны не каштуюць». І пайшоў са двара.

«Стой! — крыкнула ў адчаі жанчына. — Застанься хоць на ноч!» І суддзя не знайшоў сілы адмовіцца. Ранкам ён адбыў у сталіцу, дзе, як хутка данеслі чуткі, зачыніўся ў сваёй камяніцы і стаў піць дзень і ноч напаследак жыцця...

І раптам, як гром з яснага неба, — збоі схоплены, аздоблена імі купа асін!

Упершыню за сем гадоў мясцовае жыхарства ўздыхнула з палёгкай. Тыдзень удзячліва гудзелі званы на ашмянскіх святарнях, тыдзень усе гулялі, як на свята божага нараджэння, усе ўслаўлялі Ваньковіча, які перамог пачвар, стрымаў слова, адстаяў жыццё і ў дадатак набыў тысячу залатых.

Узяў Ваньковіч злодзеяў пад канец верасня. Здарылася гэта так. За сем вёрст ад Русіноўскай на занядбаным дварэ дажываў свой век стары Сабейка. Жылі пры ім дзве бабкі за прыслугу ды колькі парабкаў. І на гэты бедны двор запрасіліся на пастой з дзесятак аршанскіх хлопцаў. Па вёсках і дварах панёсся пагалос, што шляхцюкі маюць добрае горла, а падпіўшы выхваляюцца перад гаспадаром, што развесяць шайку ўздоўж любага ёй Чорнага шляху, завадатая ж павязуць да вялікага князя ў засмоленай кадцы. За самахвалаў памаліліся, ведаючы з сумнага вопыту, што тыя п'юць на ўласных хаўтурах. Бо хоць аршанскія шукальнікі золата, можа, і ведалі, дзе чорт начуе, але не з іх спрытам было выканаць тое, на што і суддзі Ваньковічу розуму не хапіла.

Неяк апоўначы ў вароты аціхлага ўжо двара Сабейкі загрукалі і пачуўся жаночы крык:

— Сабейка! Гэта я — Русіноўская! На нас напалі! Ратуй!

Вароты расчыніліся, але замест перапалоханай суседкі ўварваліся на двор з паўтара дзесятка злодзеяў, а ўслед — конны ў латах, у шлеме з забралам, пакрыты апанчой.

— На калені! — крыкнулі збоі і двух чалавек, якія схапіліся за сякеры, адразу забілі.

Пан Сабейка і парабкі бухнуліся на калені.

— Сячыце прыблуд! — загадаў конны.

Палова збояў кінулася ў хату па аршанцаў, праз момант адтуль пачуўся глухі шум бойкі.

Водца саскочыў з каня і таксама пакрочыў у хату. Калі ён увайшоў, тут гарэлі лучыны, і дробныя іх агеньчыкі цьмяна асвятлялі суддзю Ваньковіча, шчыльнае кола ягоных людзей, грудок збітых і павязаных разбойнікаў.

У гэты ж час на двары хлопцы Ваньковіча выходзілі з пуні і стайні, вязалі здранцвелых ад нечаканасці пасткі дайнекаў.

— Бачыш, ёсць бог, — сказаў Ваньковіч завадатаю. — Прывёў цябе пад сякеру. Здымай шлем.

Той, марудзячы, пачаў расшпільваць скураны раменьчык, хрыпла, адчайна ўздыхнуў і махам скінуў шлем на падлогу. Ваньковіч убачыў твар сваёй нявесты. Ядвіга пагардліва ўсміхалася.

— Не памыляйся, — астудзіў яе Ваньковіч, — цябе і чакаў! Звязаць! — загадаў ён хлопцам і выйшаў на панадворак.

Там, каля пуні, гуртом стаялі палоннікі. Варта трымала паходні, і водблескі чырвонага святла высвечвалі насцярожаныя, з затоенай нянавісцю вочы злачынцаў.

— Памаліцеся! — як вырак, сказаў Ваньковіч.

З гурта адгукнуўся злы голас:

— Памолімся, суддзя! Хай табе будзе з Ядвігай так соладка, як нам усім з ёй бывала.

Ваньковіч перачакаў кплівы рогат і махнуў сотніку:

— На сук!

Злодзеяў абнялі шчыльным колам і пагналі па дарозе да асін.

Ваньковіч вярнуўся ў хату. Ядвіга са звязанымі рукамі скамянела стаяла ў куце. З грудка цел несліся стогны і лаянка.

— Гэтых і гэтую ў хлеў! — загадаў Ваньковіч хлопцам.

Хутка ў хату данеслася верашчанне пацяснёных свіней...

Праз месяц на галоўнай віленскай плошчы перад касцёлам св. Станіслава, там, дзе ўзносіцца старадаўняя вежа Крыві-Крывейта, цесляры збудавалі памост, на памосце паставілі шыбеніцу. Абвешчаным днём на плошчы стоўпілася за тысяч дваццаць людзей.

Час блізіўся да апоўдня. У замкавым скляпенні ксёндз рыхтаваў Ядвігу да смерці. Яна папрасіла спаткання з Ваньковічам. Той прыйшоў да яе.

— Ваньковіч! — Ядвіга апусцілася на калені. — Даруй мне!

Ваньковіч не азваўся.

— Нудна жылося, Ваньковіч, — ціха, нібы выбачліва сказала Ядвіга. — Не па мне было, як Марта, назапашваць на зіму мёд і мяса. Ці марнытаць малітву перад крыжом. А пайшла за Хадзевіча, дык ён піў і біў. Не знесла — тапаром яму ў лоб. Памёр — а мне свята. І ўжо нікога не шкадавала. У асалоду стала лётаць над процьмай. Як месяц без справы, галава пачынала гарэць... Бязглуздзіца нашае жыццё!.. А цябе я кахала. Сумна рабілася без цябе. Ды ведала, што нам не лёс... Не магла дачакацца, калі споўніш клятву. Я хіба толькі на хвіліну цябе перажыла б — таксама б паласнула лязом па шыі...

— Мела лепшае выйсце, — змрочна адказаў Ваньковіч. — Магла спаіць свой статак ды парэзаць... Можа, бог і дараваў бы табе...

— Не! — адмовілася Ядвіга. — Гадзілася б сама сябе, што тых зарэзала, каго спакусіла...

— Ведаеш, аб чым шкадую? — спытаў Ваньковіч.

— Скажы, — вочы Ядвігі запаліліся надзеяй.

— Аб тым, што лёгка памрэш! — адказаў Ваньковіч і выйшаў.

Русіноўскую павялі на плошчу. На ёй быў зладзейскі строй: латы, апанча, шабля; толькі шлем не надзелі ёй на галаву, каб усе бачылі твар забойцы, і валасы, не забраныя ў касу, ляжалі залатым крылом паверх чорнай, як ноч, апанчы.

Кат уздзеў на Ядвігу пятлю, натоўп затоіў дыханне, у гэтай мёртвай цішыні гулка грукнула аб памост выбітая з-пад ног лаўка...

І было гэта ў 1507 годзе, кастрычніка месяца, перадапошнім днём...

Вось і ўсё.

Старэйшая сястра Марта праз гора і сорам захварэла і хутка памерла.

Пан Матуш спіўся.

Марыля, ужахнёная грахамі сястры, кінулася ў Вілію.

Двор Русіноўскіх суседзі спалілі.

А чаму так: тры сястры — тры непадобныя жыцці, тры стыхіі — няма адказу.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## ЦЯПЛО СЯБРОЎСКІХ КАНТАКТАЎ

**Добрасуседскія, сяброўскія сувязі склаліся паміж пісьменнікамі Брэстчыны і Валыні. Падвядзеннем вынікаў творчага супрацоўніцтва сталі штогадовыя сустрэчы прадстаўнікоў дзвюх пісьменніцкіх арганізацый з працоўнымі прыгранічных раёнаў. Маршруты гэтых сустрэч ужо прайшлі мясцінамі, звязанымі з жыццём і творчасцю Міколы Засіма і Аляксандра Гаўрылюка, партызанскімі сцежкамі Іванаўскага і Любяшоўскага раёнаў; пісьменнікі наведалі беларускія і ўкраінскія «вогненныя» вёскі, знаёміліся з жыццём працоўных Ратнаўскага раёна і творчасцю народных майстроў Століншчыны.**

**Сёлетнюю сустрэчу літаратары-суседзі правялі ў Кобрынскім і Ковельскім раёнах, працоўныя якіх сябруюць і спаборнічаюць. Пачалася яна знаёмствам з Кобрынскім вучылішчам народных мастацкіх промыслаў. Аб беражлівым стаўленні да культуры свайго народа, літаратуры, фальклору гаварылі Мікола Пракаповіч і Пятро Мах, Васіль Жуковіч і Міхайла Пранько, Васіль Сахарчук і Вера Амельянчук, іншыя ўдзельнікі.**

**Кожная з сустрэч працягвае традыцыі папярэдніх, адначасова прыўносіць нешта сваё. Так, сёлета ў складзе дэлегацыі валынян быў старшыня калгаса імя Лесі Украінкі І. Баратынец, заўзяты аматар кнігі. І, мабыць, гэта невыпадкова, бо зямля, на якой знаходзіцца гаспадарка, асвечана геніем Лесі Украінкі. Старшыня ўкраінскага калгаса даўно хацеў бліжэй пазнаёміцца з вопытам беларускіх земляробаў, і сёлетнія літаратурныя сустрэчы сталі добрай нагодай. Шчодра дзяліўся з гасцямі вопытам па інтэнсіфікацыі гаспадарання старшыня калгаса «Перамога» Кобрынскага раёна А. Момлік.**

**Ужо як да добрых знаёмых прыехалі на наступны дзень пісьменнікі ў калгас імя Лесі Украінкі. Сяло Калодзежнае, гэты куточак Валынскага Палесся, шырока вядомы ў свеце. Тут Леся Украінка пачынала сваю літаратурную дзейнасць, тут нарадзіліся і ажыццяўляліся задумы яе твораў.**

**Не ўпершыню гучала тут побач з украінскай і беларуская мова. Літаратурным вечарам у Калодзежным, якому папярэднічала сустрэча з ковельскімі школьнікамі, і завяршылася сёлетняе літаратурнае свята, арганізаванае Брэсцкай і Валынскай пісьменніцкімі арганізацыямі сумесна з Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.**

**Творчыя стасункі пісьменнікаў-суседзяў працягваюцца. У наступным годзе ў альманаху «Братэрства» выходзіць падборка твораў валынян у перакладах пісьменнікаў Брэстчыны. Валынскія пісьменнікі мяркуюць пазнаёміць з творчасцю сяброў чытачоў часопіса «Жовтэнь». Такіх прыкладаў творчага супрацоўніцтва, напэўна, будзе яшчэ шмат.**

**М. БАРЦЕНЕЎ.**

## УТВОРАНА КАМІСІЯ «ВЯРТАННЕ»

**У Беларускім фондзе культуры ўтворана камісія «Вяртанне», мэта якой — збор культурных каштоўнасцей, што належаць беларускаму народу. Вырашана стварыць картатэку, у якой будзе зарэгістравана ўсё, што было ў нашых музеях, карцінных галерэях, у прыватнікаў і знікла ў час войнаў ці па іншых прычынах.**

**На ўстаноўчай нарадзе выступілі старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, кіраўнікі дзяржаўных музеяў і карцінных галерэй, мастацтвазнаўцы. Старшынёй камісіі «Вяртанне» выбраны пісьменнік, член праўлення Беларускага фонду культуры А. Мальдзіс.**

**Ц. ВАЛЯНЦІНАЎ.**

## Камісіі па літаратурнай спадчыне

**Сакратарыят Саюза пісьменнікаў БССР утварыў камісіі па літаратурнай спадчыне: К. Губарэвіча (А. Петрашкевіч — старшыня, У. Няфёд, А. Дзялендзік, М. Губарэвіч — сакратар), М. Стральцова (В. Карамазаў — старшыня, Я. Брыль, Р. Барадулін, Л. Дранько - Майсюк, А. Стральцова — сакратар), В. Праскурава (М. Дубянецкі — старшыня, В. Гардзей, Л. Праскурава — сакратар).**

## НАШ КАЛЯНДАР

# «Парыж—мой другі Віцебск...»

У Маскве ў Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна працуе выстаўка Марка Шагала, прысвечаная стагоддзю з дня нараджэння мастака. Гэты юбілей мае пэўныя адносіны і да Беларусі, і не толькі таму, што Шагал родам з Віцебшчыны. Але і таму, што наш край—радзіма многіх яго матываў і вобразаў.

Месца Шагала ў гісторыі заходнееўрапейскага мастацтва вызначана даволі дакладна. Больш складанае пытанне — Шагал у кантэксце агульнарасійскай культуры першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Ну, а тэма «Шагал і Беларусь» увогуле ніколі не была не толькі ў цэнтры, але нават і на перыферыі ўвагі гісторыкаў і тэарэтыкаў мастацтва. Беларускае ж мастацтвазнаўства толькі падыходзіць да асэнсавання культурных здабыткаў (і страт) тых далёкіх гадоў.

Стаўленне да Шагала, дакладней, да яго творчасці на радзіме мастака ніколі не было абыякавым. Ім ці празмерна захапляліся, ці наогул выкрэслівалі з мастацтва Расіі (адпаведна і Беларусі). Спрэчкі ў асноўным датычаць віцебскага перыяду ў гісторыі «левага» мастацтва (1918—1922) і той ролі, якую адыграў у ім Шагал. Інакш і быць не магло, бо тут — ключ да разумення метамарфоз культурнага працэсу ў 20-я і больш позніх гады.

Уласны почырк, колерная гама, своеасаблівасці стылістыкі вызначыліся ў Шагала ў 1910—1914 гадах, калі ён знаходзіўся ў Парыжы ўпершыню. Французскае мастацтва пачатку стагоддзя стала для яго вялікай школай майстэрства, спрыяла выкрышталізацыі свайго эстэтычнага крэда.

Ужо тады малады мастак звярнуў на сябе ўвагу, але галоўныя творчыя падзеі былі ў яго наперадзе. Яны выпадаюць на 1918—1919 гады, а ўвогуле перыяд «левага» мастацтва ў Віцебску ахоплівае 1918—1922 гады. Гэты час яшчэ доўга будзе выклікаць жывую цікавасць у мастацтвазнаўцаў і мастакоў. Па сутнасці, мастацкая крытыка ў Савецкай Беларусі пачалася менавіта са спрэчак па пытаннях «віцебскай школы». Гэтыя няпростыя пытанні былі фактам нашага мастацтвазнаўства, нашай культуры, нават калі іх дэманстратыўна ігнаравалі, бо замоўчванне ці ігнараванне — таксама пазіцыя.

У 1918 годзе Марк Шагал з'яўляецца ў родным горадзе ў якасці ўпаўнаважанага Калегіі па справах мастацтва і мастацкай прамысловасці пры Камісарыяце народнай асветы. Ягоны мандат быў падпісаны А. Луначарскім. Тут сыграла сваю ролю прыхільнасць А. Луначарскага да «левых» эксперыментаў у мастацтве, да праваднікоў «пралетарскай культуры».

Аналіз сітуацыі, якая склалася ў Віцебску ў 1918—1922 гадах, дазваляе прасачыць лагічны ланцуг: Пралеткульт — Луначарскі — Шагал. Пры тым, што Шагал афіцыйна не належаў ні да якіх палітычных аб'яднанняў, у тым ліку і да Пралеткульта.

Захапленне А. Луначарскага «левым» эксперыментам не ўхваляў У. І. Ленін. Старшыня Саўнаркома і нарком асветы па-рознаму ставіліся і да Пралеткульта. У накідзе рэзалюцыі аб пралетарскай культуры для І з'езда Пралеткульта ў кастрычніку 1920 г. У. І. Ленін падкрэсліваў:

«1. Не асаблівыя ідэі, а марксізм.

2. Не выдумка новай пралеткультуры, а развіццё лепшых узораў, традыцый існуючай культуры з пункту гледжання светасузірання марксізму і ўмоў жыцця і барацьбы пралетарыяту ў эпоху яго дыктатуры...»

А яшчэ раней, у 1919 годзе, маючы на ўвазе Пралеткульт, У. І. Ленін пісаў пра вялікую колькасць выхадцаў з буржуазнай інтэлігенцыі, якія разглядаюць новыя асветніцкія ўстановы для рабочых і сялян, як самае зручнае поле дзейнасці для сваіх уласных выдумак у галіне філасофіі ці ў галіне культуры.

1918—1922 гг. — час правядзення ў Віцебску буйнамаштабнага эксперыменту Пралеткульта, асноўным арганізатарам якога быў Шагал. Тут пры матэрыяльнай і палітычнай падтрымцы з цэнтра для Шагала і групы запрошаных ім мастакоў былі створаны амаль «парніковыя» ўмовы (зразумела, па крытэрыях тых гадоў). Віцебск на пэўны час стаў сапраўднай творчай лабараторыяй, палігонам «левых» кірункаў. Краевугольнае становішча Віцебска ў «левым» мастацтве тлумачыцца яго ўдалым размяшчэннем у транспартным «трохкутніку» паміж Петраградам і Масквой; тым, што горад не быў непасрэдна закрануты ні імперыялістычнай, ні грамадзянскай вайной, а галоўнае — яго правінцыяльнасцю (буйны цэнтр накшталт Масквы, Кіева ці Вільні быў бы «левым» на той час «не па зубах»).

Сам Шагал у 1918 годзе выказваў сваё меркаванне пра горад і яго жыхароў у такіх словах: Віцебск — «...правінцыяльная дзірка з амаль стотысячным насельніцтвам, дзе... дажывае вартае жалю перасоўніцтва». «Людзей! Мастакоў! Рэвалюцыянераў - мастакоў сталічных у правінцыю да нас? Якімі калачамі вас заманіць?». Шагал адкрыта рабіў стаўку на прыезджых карыфеяў, бо разумеў, што шырокай падтрымкі ў землякоў ён з пралеткультаўскімі ідэямі не знойдзе.

Ёсць наяўная супярэчнасць паміж дэкларацыямі М. Шагала і ягонай уласнай творчасцю. На словах ён нібыта рашуча парываў з усялякай мінуўшчынай, з культурнымі, рэлігійнымі, нацыянальнымі традыцыямі, заклікаў іншых зрабіць тое ж самае. Гэта значыць, парваць «са старою руцінаю Акадэміі, даць шырокую магчымасць квітнець леваму мастацтву», даць дарогу «ўсяму рэвалюцыйнаму, рашуча ламаць усё старое, і на абломках старога ствараць грандыёзны будынак новага». Сам у той жа час чэрпаў натхненне з успамінаў і рэальнасцей быцця, прытрымліваўся ў сваім жывапісе канкрэтнай нацыянальнай міфалогіі, нават канкрэтных тыпажоў, хоць, зразумела, гэта праяўлялася інакш, чым у класічных традыцыйных формах рэалістычнага мастацтва. Неадпаведнасць творчай практыкі Шагала ўласным дэкларатыўным заявам была прычынай ягонага канфлікту з другім выдатным прадстаўніком «віцебскай школы» Казімірам Малевічам. Той быў заняты пошукамі «чыстай» формы, нават Шагал быў для яго занадта акадэмічным.

Сапраўдныя творчыя дасягненні мастакоў фармальнага кірунку ў 20-я гады не маглі атрымаць аб'ектыўнай ацэнкі. Гэтаму шкодзіла іх імкненне да гегемоніі ў мастацтве, непадрыхтаванасць да прафесійнага дыялогу з тымі, хто арыентаваўся на іншыя эстэтычныя каштоўнасці.

Дзеля аб'ектыўнасці трэба дадаць, што той крэн, які адбыўся ў нашым мастацтве ў 30-я гады, таксама не спрыяў дэмакратызацыі творчага жыцця: у мастацтве запанаваў вульгарны гнасеалагізм з яго стаўкай на прахадную тэму. Менавіта тут карані раскрытыкаванай у 50-я гады «тэорыі бесканфліктнасці». Лагічным было адраджэнне агульнай цікаўнасці (прафесійная цікаўнасць існавала заўжды) да «віцебскай школы» ў 60-я гады, бо час «суровага стылю» быў плённым на пошукі ў галіне формы і колеру. Ну а сапраўднае асэнсаванне мастацкага эксперыменту 20-х гадоў адцягнулася на яшчэ больш позні час.

Шагал пакідае Віцебск у 1919 годзе. Звычайна гэта тлумачаць разыходжаннем у поглядах з Казімірам Малевічам. І гэта не без падстаў: сапраўды, сітуацыя, якая нагадвае двух мядзведзяў у адной бярлозе, не магла быць М. Шагалу даспадобы. Але галоўная прычына не ў гэтым.

Проста ўжо ў 1919 годзе ў самы разгар «левай» эпапеі Шагал зразумеў — эксперымент не даў чаканага выніку, справа далей не пойдзе. Мастацтва не можа існаваць без сацыяльнай базы, а ў Віцебску такой базы не было. У 1922 годзе перабіраецца ў Петраград Малевіч разам са сваімі вучнямі і паплечнікамі. А сам Шагал у 1922 годзе пакідае радзіму. З гэтага часу яго мастацтва паступова страчвае ўплывы кубізму, формы губляюць вастрыню, набываюць мяккасць і плаўнасць. У карцінах пераважае тэматыка кахання. У яго мастацтве можна знайсці элементы сімвалізму, экспрэсіянізму, а таксама сюррэалізму.

У розныя часы і сам мастак быў розным. Для Шагала ўзору 1918 года Віцебск быў «правінцыяльнай дзіркай», для сталага майстра, чалавека з багатым жыццёвым вопытам, родны горад атаясамліваўся з незваротнымі дзяцінствам, юнацтвам. У 1944 годзе мастак прысвячае роднаму гораду натхнёныя радкі: «Як сумны вандроўнік, я толькі нёс усе гады твой вобраз у сваіх карцінах, і так з табою размаўляў, і, як у люстэрку, цябе бачыў. ...Я гляджу, мой горад, на цябе здалёк, як мая маці на мяне глядзела праз дзверы, калі я выходзіў на дарогу».

Парыж Шагал называў сваім «другім Віцебскам». Гэтае прызнанне нагадвае Малявіна, які ў эміграцыі пісаў жанчын у чырвоных сарафанах, Білібіна, які ў далечыні ад радзімы жыў вобразамі рускіх казак і былін... У кожнага выдатнага мастака ёсць свая легенда. Часам яна супадае з рэальным вобразам, часам — не. І Шагала сёння першнаперш ведаюць як легенду, якую ён стварыў уласнымі рукамі. Ну што ж, легенды таксама маюць права на жыццё. Яны — частка гісторыі.

***Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.***




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02288 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.